ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

24 КАСТРЫЧНІКА 2003 г. № 43/4228


**Валянціна КАДЗЕТАВА:**

*"Калі ж улічыць, што "жывыя пісьменнікі" для большасці вясковых школьнікаў — гэта нешта з галіны фантастыкі, застаецца разлічваць толькі на школу, на майстэрства і духоўнае багацце выкладчыкаў літаратуры".*



2-3

**Алесь ЯСКЕВІЧ:**

*"Вытокі айчыннай духоўнай традыцыі трэба весці з тых лёсавызначальных пачаткаў нашай гісторыі, калі шматпляменная Белая Русь складала важнейшую паўночна-ўсходнюю частку славянскай прарадзімы".*




4-5

# НАТХНЁНАЯ СОНЕЧНЫМ ВОДАРАМ

**Заўтра спраўляе свой юбілей вядомая мастачка, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Нінель ШЧАСНАЯ. Нататкі пра жыццё і творчасць Нэлі Іванаўны чытайце на стар.**

12-13

Фота Кастуся ДРОБАВА

# КОЛА ДЗЁН



**Напярэдадні 85-годдзя камсамола ЦК Грамадскага аб'яднання "БРСМ", Рэспубліканскі цэнтр творчай і навуковай моладзі і ТЮГ правялі сустрэчу з лаўрэатамі прэміі камсамола ў галіне навукі і мастацтва, імёны якіх упісаны ў гістарычны партрэт нашай краіны. Сустрэча прайшла пры поўнай зале ў Тэатры юнага гледача.**

### КЛОПАТ ТЫДНЯ

Да 2009 года ў сталічных мікрараёнах Малінаўка, Сухарава і Лошыца будуць пабудаваны тры новыя паліклінікі. Такое рашэнне змяшчаецца ў Праграме развіцця першаснай медыка-санітарнай дапамогі ў Мінску на 2003—2007 гады. Ужо ў 2004 годзе плануецца пачаць будаўніцтва паліклінікі ў мікрараёне Малінаўка-8, бо існуючая 25-я паліклініка перагружана больш як у 1,5 раза. Яшчэ адзін аб'ект першачарговага значэння — шматпрофільная паліклініка на 850 наведванняў у змену з дзіцячым і стаматалагічным аддзяленнямі ў мікрараёне Сухарава-2. Яе плануецца ўвесці ў эксплуатацыю ў 2009 годзе.

### ДАМОЎЛЕНАСЦЬ ТЫДНЯ

Папярэдняя дамоўленасць аб павелічэнні ў 2004 годзе квот на пастаўкі беларускага тэкстылю ў краіны Еўрасаюза дасягнута ў ходзе перагавораў з Еўрапейскай камісіяй, якія праходзілі ў Брусэлі. Паводле інфармацыі МЗС, дазвол атрыманы "ў абмен на лібералізацыю ўмоў доступу на беларускі рынак тэкстылю, які паходзіць з краін Еўрапейскага саюза".

### НАПАМІН ТЫДНЯ

У нашай краіне завяршаецца перыяд дзеяння "летняга" часу. Традыцыйна гэта прыпадае на апошнюю нядзелю кастрычніка. У гэтым годзе пераход на "зімні" час адбудзецца 26 кастрычніка ў 3 гадзіны ночы, калі стрэлкі гадзіннікаў будуць пераведзены на 1 гадзіну назад.

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

У студзені—верасні па дапамогу ў працаўладкаванні афіцыйна звярнулася 246,5 тыс. грамадзян нашай краіны — такія лічбы маюцца ў дэпартаменце па занятасці насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. У цэлым, з улікам 130,5 тыс. чалавек, што былі зарэгістраваныя беспрацоўнымі на пачатку года, сёлета пошукамі працы займаліся ўжо 377 тыч. грамадзян краіны. Амаль 80 працэнтаў з іх вырашылі звольніцца з ранейшай работы па ўласным жаданні. У выніку скарачэння штатаў беспрацоўнымі сталі 16,5 тыс. чалавек. На 1 кастрычніка статус беспрацоўнага мелі 139,4 тыс. грамадзян нашай краіны.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

У гэтым годзе, паводле апошняй інфармацыі Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, агульная колькасць пацярпелых ад ужывання грыбоў у нашай краіне перавысіла ўжо сотні чалавек. Найбольш атручаных грыбамі на Гомельшчыне — 91 чалавек, у Мінску пацярпелі ад грыбоў — 86 чалавек, у Гродзенскай вобласці — 44, Брэсцкай – 35, Віцебскай — 29.10 чалавек, якія атруціліся грыбамі, не ўдалося ўратаваць.

### СТАРТ ТЫДНЯ

У ноч з 8 на 9 кастрычніка стартаваў чарговы, 87-ы чэмпіянат НХЛ. У розыгрышы ўдзельнічаюць 30 каманд, якія правядуць 1230 матчаў. Кожны клуб меў права заявіць 23 ігракі, у выніку сёлета ў НХЛ выступае 690 хакеістаў. Сярод іх — два беларусы: абаронца сёлетняга фіналіста Кубка Стэнлі "Анахайма Майці Дакс" Руслан Салей і форвард двухразовага ўладальніка (1991—92) Кубка Стэнлі "Пітсбург Пінгвінз" Канстанцін Кальцоў.

### ЗАЎСЁДЫ МОЖНА ПАДПІСАЦЦА!

Шаноўныя чытачы! На "ЛіМ" ніколі не позна падпісацца. Кошт індывідуальнай падпіскі на 1 месяц — 2500 рублёў. Індывідуальны індэкс — 63856. Кошт ведамаснай падпіскі на 1 месяц — 4000 рублёў. Ведамасны індэкс — 63857.

НАДЗЁННАЕ

# ПРА ІДЭАЛОГІЮ, АШЧАДНАСЦЬ І ...«ЛАМАВОГА КАНЯ»

***Бездухоўнасць. Жорсткасць. Абыякавасць да лёсу сваёй Радзімы і нават лёсу самых блізкіх людзей. Гэтыя жудасныя, без перабольшання, з'явы нехта спрабуе тлумачыць выключна цяперашнім эканамічным становішчам: "Не до жиру — быть бы живу". Пад "жиром" на ўвазе маецца, вядома ж, не ўласна "жир", а такія паняцці, як прыстойнасць, годнасць, сумленне.***

Толькі ж хіба не было на нашай памяці значна горшых эканамічных сітуацый? Былі. І неаднойчы. А вось такога душэўнага спусташэння, такой масавай, прабачце, дэградацыі асабіста я не памятаю. Разважаю пра надзённае, пра будучае сваіх сыноў, маладога пакалення ўвогуле і ўсё больш сцвярджаюся ў думцы: тое, пра што з болем мы гаворым сёння, — вынік славутай "деидеологизации" (ну і слова ж!), якая пачалася прыблізна гадоў дзесяць таму. І не варта, па-мойму, здзіўляцца, калі ў адказ на пытанне, што ж такое ідэалогія, і першы, і другі, і трэці разгублена паціскае плячыма. Дарэчы, адназначнага адказу на гэтае ж пытанне, здаецца, пакуль не могуць даць нават сацыёлагі. І ўсё ж, дзякаваць Богу, мы нарэшце прыходзім да высновы: без дакладна распрацаванай сістэмы прававых, маральных і іншых норм (якую б назву тая сістэма ні мела: "ідэалогія", "нацыянальная ідэя" і г.д.) ніякая дзяржава існаваць не можа. Хацелася б, каб як найхутчэй мы прыйшлі і да высновы, што арганічнай часткаю той сістэмы, так бы мовіць, яе правадніком з'яўляецца мастацкае слова, сілу якога, на жаль, даўно належным чынам ацаніў і сёй-той з нашых "зычліўцаў", хто меў — і мае! — мэтаю звесці наш народ да заалагічнай стадыі існавання.

"Літаратура, тэатры і кіно — усё будзе паказваць і ўслаўляць самыя ганебныя чалавечыя пачуцці. Мы будзем усяляк падтрымліваць тых "творцаў", якія стануць распаўсюджваць і ўдзёўбваць у чалавечую свядомасць культ сексу, насілля, садызму, здрадніцтва — усялякай разбэшчанасці... Будзем вырываць духоўныя карані, апашляць асновы народнай маральнасці..."

Працытаванае мною прагучала з вуснаў вядомага ідэолага "халоднай вайны" А. Далеса амаль шэсць дзесяцігоддзяў таму. Але... зазірніце ў кніжныя — і не толькі ў кніжныя, а практычна ў любыя — крамы, кіёскі, вакзалы, пераходы метро. Колькі паскудства (язык не паварочваецца назваць гэта кнігамі ці часопісамі) у заманліва яркіх вокладках! І, як гэта ні сумна, сярод прозвішчаў вытворцаў той нізкапробнай прадукцыі ўжо не толькі замежныя, як тое было раней, прозвішчы... І мне, нібыта наяве, бачыцца пераможная ўсмешка "ідэолага" і мітуслівы вочы "творцаў", якія ў прадчуванні "ўсялякай падтрымкі" — перш за ўсё тлустага кавалка — выдасканальваюцца ў смакаванні самых агідных людскіх памкненняў.

"Не до жиру"... "Рыночная эканоміка..." "Абы куплялі..."

І купляюць. І пераймаюць. Юнакі — "супергероеў", у якіх, па словах паэта Міколы Мятліцкага, "...пружыцца мускулатура, і аніводнай звіліны", дзяўчаты — размаляваных лялек, не абцяжараных такімі "комплексамі" (сёння гэта так і называюць — "комплексы"), як цнатлівасць, сціпласць і дзявочы гонар. Ну а тут яшчэ тэлебачанне і кіно з баевікамі, трылерамі, эротыкай... Дарэчы, нядаўна па тэлевізары мы мелі магчымасць паглядзець вяселле, дзе і жаніх, і нявеста былі (як бы гэта далікатней вымавіць) мужчыны з нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыяй. Адносіны аўтара перадачы да "граху садомскага" падаліся мне даволі лаяльнымі.

А мы, што ж мы, пісьменнікі, асветнікі і проста грамадзяне з цвярозым розумам і нескажонай "арыентацыяй"? Няўжо мы моўчкі будзем глядзець на гэтую ўсёдазволенасць, якую сёй-той імкнецца падаваць пад выглядам дэмакратыі?

"А што ж мы? — уздыхаюць пісьменнікі. — Наша "немаўчанне" — гэта кнігі. А кніга — выдавецтвам цяпер цяжка".

Так, пісьменнікі доўгімі гадамі чакаюць выдання сваіх кніг (дзяржаўныя сродкі трэба ашчаджаць!), кніг, у пераважнай большасці, вельмі патрэбных, своечасовых. Стомленыя чаканнем, прапануюць настаўнікам вывучаць сучасную літаратуру па часопісных публікацыях.

Я працую ў адной з буйных вясковых школ. У бібліятэцы на працягу апошніх 5—6 гадоў не з'явілася ніводнага новага ні рускамоўнага, ні беларускамоўнага літаратурна-мастацкага выдання! І сітуацыя такая бадай што тыповая (зноў жа ашчаджаюцца дзяржаўныя сродкі!). Такая ашчаднасць нагадвае мне ашчаднасць адной маёй знаёмай, якая заўжды купляла тканіны на 10—15 сантыметраў меней, чым тое трэба было, каб атрымалася годная сукенка. І краўчыха мусіла "мудрыць": ушывала з абрэзкаў кліны, звужала рукавы і ўсякае такое... У выніку абноўкі мелі выгляд. Дакладней — ніякага выгляду не мелі.

Але ж мы не сукенкі шыем — хоць і гэта справа няпростая — мы ж "далучаем маладое пакаленне

# ДУМАЮЧЫ ПРА СУПОЛЬНУЮ БУДУЧЫНЮ

***Скарынаўскі цэнтр рыхтуе чарговую Міжнародную канферэнцыю, на гэты раз пры падтрымцы ЮНЕСКА, якая адбудзецца ў Мінску 10—12 снежня 2003 г., — "Міжкультурны дыялог: нацыянальна-культурнае і духоўнае развіццё Беларусі ва ўмовах глабалізацыі". Пракаментаваць праблемы, якія выносяцца на абмеркаванне нашых чытачоў, мы папрасілі аўтара праекта, дырэктара ННАЦ імя Ф.Скарыны ЛЮБОЎ УЛАДЫКОЎСКУЮ-КАНАПЛЯНІК.***

Папулярызуючы па меры мажлівасцяў беларускую культуру і распаўсюджваючы веды пра Беларусь у свеце, Скарынаўскі цэнтр неаднаразова пераконваўся, што перадусім неабходна вырашыць свае ўнутраныя праблемы — дакладна акрэсліць беларускую мадэль развіцця, вызначыць нашы прыярытэты ў сацыяльна-культурнай сферы з гледзішча, натуральна, нацыянальных інтарэсаў.

"Беларускую мадэль", беларускую місію немажліва ажыццявіць без цэласнага, комплекснага асэнсавання агульначалавечых праблем, якія паставілі на мяжу выжывання чалавечую цывілізацыю, культурна-ментальных асаблівасцяў беларускай нацыі, беларускага грамадства і сучаснага чалавека. Беларуская перспектыва можа быць пабудавана толькі пры ўмове комплекснага, адначасовага рашэння і нацыянальных, і рэгіянальных, і глабальных праблем.

Узровень адукацыі, навукі і культуры на Беларусі заўсёды быў досыць высокі. Не дзіўна, што безліч навукова-практычных і асветніцкіх праектаў рэалізуецца ў нашай краіне і сёння. Ніхто не аспрэчвае важнасці і значнасці паасобных вузканавуковых даследаванняў і тэматычных канферэнцый, але часта так і хочацца запытаць: і што з таго вынікае? Апрача, безумоўна, далёкіх навуковых мэтаў, калі навука існуе дзеля навукі і іншых раскошаў. Адным словам, апрача сваіх прафесійных і навуковых інтарэсаў, асабістых кар'ер і розных выгод, усе мы маем, не забываймя, і патрыятычны абавязак. Для інтэлігенцыі, інтэлектуалаў ён палягае, мне падаецца, у тым, каб накіраваць увесь свой патэнцыял на пошук спосабаў вырашэння тых канкрэтных практычных праблем, якія стаяць перад сучасным беларускім грамадствам, нашай нацыяй і дзяржавай.

Сёння найважнейшым бачыцца дакладнае акрэсленне беларускіх перспектыў і беларускай мадэлі развіцця ў сучасным свеце, які перажывае новую, чарговую хвалю інтэнсіўных глабальных трансфармацый. Як не згубіцца ў геапалітычных катаклізмах і агульначалавечых праблемах, як захаваць і развіваць нацыянальную культуру і мову, лепшыя традыцыі свайго народа, а галоўнае — як працаваць з беларускай традыцыяй на вырашэнне глабальных, а не толькі вузканацыянальных, лакальных, дробных, прыватных, аўтаномных задач, — вось на якія пытанні мы мусім сёння шукаць адказы. Інакш асудзім сябе і свой народ на вечную адсталасць ад цывілізаванага свету, а мары аб запатрабаванасці нашай незрэалізаванай духоўнасці згаснуць пад абломкамі вечнай унутранай барацьбы. Сучаснае беларускае грамадства традыцыйна несалідарнае, падзеленае праз невырашальныя супярэчнасці, і скансалідавацца можам толькі праз агульную ідэю, справу, і толькі праз арыентацыю не так на мінулае, як на супольную бу-

да скарбніц айчыннай культуры". Тут ужо "кліны ўшываць" — недаравальна.

Калі ж улічыць, што "жывыя пісьменнікі" для большасці вясковых школьнікаў — гэта нешта з галіны фантастыкі, застаецца разлічваць толькі на школу, на майстэрства і духоўнае багацце выкладчыкаў літаратуры. Ну а тут — свае праблемы. Іх сёння вялікая колькасць, але я спынюся толькі на трох.

Праблема першая — праграмныя творы. Пераглядаеш праграму, і ствараецца ўражанне, што ў асяродку яе складальнікаў дзейнічае вельмі шкодная, але вельмі ўплывовая асоба з даручэннем выклікаць у дзяцей алергію на літаратуру ўвогуле. Чым жа яшчэ растлумачыць, што для вывучэння ў школе прапануюцца занадта складаныя для дзіцячага і падлеткавага разумення творы, сярод якіх, да таго ж, шматтомнікі, змест якіх адолець можа не кожны дарослы?



Чаму скарачаюцца гадзіны на вывучэнне літаратуры? — пытаюцца настаўнікі, але ж пытанні застаюцца без адказу.

Праблема другая — падручнікі. Ведаеце, у якім годзе выдадзены падручнік па рускай літаратуры для адзінаццатага класа? У 1991. Гэта па такім падручніку мы мусім працаваць сёння. Няўжо і тут ашчаджаем?! Што ж мы маем у выніку? Амаль поўную неадпаведнасць падручніка праграме. І вось такую мову: "I съезд наших писателей в истории литературы знаменует собой переход от литературного полицентризма к монологизму, от свободы творчества, которое проявилось, в частности, в многовариативности альтернативных концепций к культивированию и постепенной догматизации единственной эстетической системы..." (Русская литература XX века, часть I, составитель А. Пронина, стр. 338).

Ну, вядома, ясна, што падумае і вырашыць нармальнае дзіця пасля чытання такога роду падручніка літаратуры. Ва ўсялякім выпадку, любові да мастацтва ён не адчуе.

Праблема трэцяя — празмерная загружанасць настаўнікаў, і асабліва настаўнікаў-філолагаў, нікому не патрэбнай папяротворчасцю. Вельмі доўга, недзе на працягу двух дзесяцігоддзяў, на старонках асветніцкіх выданняў вяліся дыскусіі пра адметнасць літаратуры як школьнай дысцыпліны, пра своеасаблівасць працы і псіхалагічнага вобліка выкладчыка літаратуры: "Настаўнік літаратуры павінен быць "трепетной ланью", а не ламавым канём, які паслушліва цягне воз з вучнёўскімі сшыткамі". Абмяркоўвалася нават пытанне пра неабходнасць змяншэння колькасці вучэбных гадзін на тарыфную стаўку: не 18, а 12 у тыдзень. Тлумачылася гэтая неабходнасць і тым, што на падрыхтоўку да ўрокаў літаратуры патрабуецца больш часу, чым да якога іншага, і тым, што настаўнік літаратуры павінен быць заўжды ў курсе літаратурнага жыцця — быць усебакова развітаю асобаю, цікавай для вучняў.

Але ішоў час, на змену адным кіраўнікам прыходзілі другія, і паступова нават размовы на памянёную тэму сціхлі. Больш за тое — на воз "ламавому каню" ў дадатак да вучнёўскіх сшыткаў ускінулі яшчэ сякія-такія "дробязі". Чаго вартыя толькі каляндарна-тэматычныя планы з сямівасьмі раздзелаў! Іх прапанавалі (загадалі!) пісаць нам і пакуль толькі нам, мовазнаўцам, у сёлетнім годзе. А яшчэ ёсць рабочыя планы, справаздачы, анкеты... Бывай, "трепетная лань"!..

Вось пішу пра набалелае, пішу не я першая і, вядома ж, не апошняя, і думаю: няўжо зноў, як гэта было ўжо неаднойчы пры абмеркаванні, здавалася б, жыццёва важнага, "пошумим и разойдемся"? Няўжо тыя, ад каго ў найбольшай ступені залежыць вырашэнне "запатрабаванага часам", не прыслухаюцца да нас?

А вось да гэтых слоў вытрымка з сачынення васьмікласніцы Лукскай школы-сада Юлі Гарбачовай (урыўкі былі змешчаны ў мясцовым друку):

"Дарослыя сцвярджаюць, што мы, падлеткі — амаральныя істоты, "отморозки", якіх цікавіць толькі секс ды наркотыкі. Але ж скажыце, хто дае падлеткам наркотыкі? Хто піша і выдае брыдкія кнігі? Хто стварыў і дапусціў да паказу такі агідны фільм для падлеткаў і пра падлеткаў, як "Яблычны пірог"? Хто паслаў на вайну ў чужую далёкую краіну двух юнакоў з нашай школы, і чыя віна, што абодва яны — Руслан і Коля — глядзяць сёння на нас з фотаздымкаў у жалобных рамках?

...Тое, якімі будзем мы, моладзь, ува многім, вельмі многім залежыць ад вас, дарослыя!"

**Валянціна КАДЗЕТАВА**

---

дучыню. Гэта як у сужэнскім жыцці — што даюць успаміны пра былыя крыўды, калі ўсё роўна трэба будаваць сумеснае жыццё. Перадусім неабходна ж кансалідаваць саму нашу інтэлігенцыю пад эгідай яе лёсавызначальнай ролі, якая па-над палітычнай кан'юнктурай. І толькі потым можна гаварыць пра такую салідарнасць беларускага грамадства, якое незалежна ад рознасці сваіх перакананняў і светапоглядаў за безумоўны прыярытэт прымае Беларусь. Як у сучаснай Польшчы, дзе зашмат сацыяльна-эканамічных праблем, аднак жа незалежна ад сваёй, напрыклад, палітычнай платформы ці жыццёвай пазіцыі, стаўлення да ўступлення ў Еўразвяз "Бог, Гонар, Айчына" застаюцца святымі для ўсіх. (Праўда, сёння на многіх кашулях палякаў можна прачытаць яшчэ і варыянт "Бог, Гонар, Айчына, Нацыя, Сям'я", што толькі ўзмацняе сэнс традыцыйнай польскай нацыянальнай ідэі). Тым не менш, калі пачынаеш гаварыць пра нацыянальную ідэю ці духоўныя, хрысціянскія ідэалы дзе-небудзь у Еўропе, гэта ўспрымаецца як крайні кансерватызм, калі не адсталасць.

Беларуская інтэлігенцыя павінна вырашыць яшчэ адну звышзадачу — пераканаць палітыкаў у неабходнасці сацыякультурнай экспертызы. Гэта азначае, што толькі прафесіяналы, а ў нашым выпадку людзі, што дасканала ведаюць беларускую традыцыю і сусветны вопыт, могуць прапанаваць аптымальны шлях у сацыякультурнай сферы, зрабіць аналітычны прагноз магчымых наступстваў пры рэалізацыі той ці іншай мадэлі развіцця Беларусі.

**СЭНС ДЫЯЛОГА ПАВІНЕН БЫЦЬ У ПРАФЕСІЙНАЙ ЭКСПЕРТЫЗЕ САЦЫЯКУЛЬТУРНЫХ СЦЭНАРЫЯЎ. ДУМАЮ, ШТО БЕЛАРУСКАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ МОЖА ПРАПАНАВАЦЬ НЕ ПРОСТА ІДЭЮ, АЛЕ ТЭХНАЛОГІЮ ЯЕ РЭАЛІЗАЦЫІ.**

Асобнай увагі і гаворкі заслугоўвае праблема духоўна-маральнага ўзроўню нашага грамадства, якая ў найбольшай меры датычыць духоўнага стану кожнага асобнага чалавека. Увогуле ж праблемы нацыянальныя, грамадскія падаюцца невырашальнымі без вырашэння праблемы чалавека. Праблема ж асобы на ўсёй постсавецкай прасторы распрацавана даволі слаба. Тым не менш, ад духоўнага, інтэлектуальнага ўзроўню, ад грамадзянскай і нацыянальнай самасвядомасці залежыць асабістая годнасць і ў канчатковым выніку — грамадзянскі мір, фарміраванне грамадзянскай супольнасці, яе развіццё, маральнае здароўе, нацыянальная годнасць і воля.

Такім чынам, мэта нашага праекта — распрацоўка асноў стратэгіі нацыянальна-культурнага і духоўнага развіцця Беларусі ў кантэксце глабальных працэсаў. Мы павінны зрабіць аб'ектыўны, навуковы аналіз сучасных тэндэнцый у сферах нацыянальна-культурнага і духоўнага жыцця Беларусі ў сусветным кантэксце і прапанаваць сістэму мер, накіраваных на ўстойлівае развіццё беларускай нацыі, што акурат дазволіць выпрацаваць тэхналогію рэалізацыі аптымальнага сцэнарыя сацыякультурнага развіцця Беларусі.

**На абмеркаванне Скарынаўскім цэнтрам выносяцца наступныя праблемы:**

— сацыякультурны кантэкст феномену глабалізацыі;

— духоўныя ідэалы і сацыяльныя трансфармацыі: беларускае грамадства ў міжцывілізацыйнай перспектыве;

— роля сацыякультурнай экспертызы ў нацыянальным развіцці;

— інтэлігенцыя: праблема кансалідацыі грамадства;

— захаванне нацыянальнай ідэнтычнасці ў супольнасці аб'яднанай Еўропы;

— беларуская нацыянальная культура і геапалітычныя працэсы;

— міжмоўнае ўзаемадзеянне ў экалінгвістычнай перспектыве;

— мова як сродак нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і формы яе быцця ў пераходных грамадствах;

— нацыянальная ідэя — мінулае ці будучыня?

---

**ЛІТАРАЛЬНА**

# КАРУПЦЫЯ — КАРОЗІЯ НЕ ТОЛЬКІ ЧЫНОЎНІЦКАЙ ДУШЫ...

***Па звестках міжнароднай арганізацыі "Транспарэйтынг інтэрнэшнл" у спісе з 133 краін, у якіх вызначаўся ўзровень супрацьдзеяння карумпіраванасці, Беларусь займае 53 месца. За ёй — Арменія (78 месца), Расія (86), а Казахстан, Малдова і Узбекістан увогуле замкнулі першую сотню.***

Яшчэ больш далей у спісе аказаліся Украіна (106) і Кіргізія (118 месца). Найгоршая сітуацыя зафіксавана ў Таджыкістане, Грузіі і Азербайджане. А самымі карумпіраванымі краінамі свету спецыялісты прызналі Бангладэш і Нігерыю.

Пра карупцыю, як сацыяльную з'яву, якая была шырока распаўсюджана яшчэ ў Спарце 2-й паловы IV стагоддзя, распавядаюць Арыстоцель, Герадот, Ксенафонт, Паўсаній, іншыя філосафы і навукоўцы. На іх думку, у асяродку вышэйшага спартанскага кіраўніцтва панавала масавае хабарніцтва, асабліва ў канцы Пелапанескай вайны, калі грашовы наплыў у краіну намнога павялічыўся. Але гэта багацце, як вядома, не аздаравіла сацыяльна-эканамічную сітуацыю дзяржавы, наадварот, пагоршыла яе, бо капітал, які асядаў у кішэнях спартанскай эліты, быў мёртвы. Такім чынам, Спарта хуткімі крокамі ішла да панавання кланавай алігархіі.

Якія ж прычыны ўплываюць на маштабы карупцыі ў нашай краіне? Як сведчыць статыстыка, толькі за мінулы год у Беларусі было выяўлена каля 18000 эканамічных злачынстваў, у кожным з якіх ёсць прыкметы карупцыі. У большасці з іх фігуруе дзяржаўны служачы. Менавіта ён і з'яўляецца той зацікаўленай фігурай для дзейнасці злачынных груповак і асобных махляроў, якія без службовай інфармацыі банкаў, аукцыёнаў, праваахоўных органаў, падатковых службаў, вядома ж, не могуць існаваць.

Чым жа заахвоціць чыноўніка, і ўвогуле, што трэба зрабіць, каб ён выконваў свае абавязкі старанна і добрасумленна? Некаторыя з аналітыкаў прапануюць павялічыць яму заработную плату да такіх памераў, каб ён, як кажуць, "зубамі" трымаўся за сваю пасаду, каб баяўся яе згубіць. Але ж практыка гаворыць пра адваротнае — памеры заработнай платы чыноўніка не ўплываюць на яго прадажнасць. У некаторых краінах, як, напрыклад, Галандыя, дзе ўзровень жыцця дзяржслужачага даволі высокія, практыкуюць ратацыю чыноўнікаў, а ў Кітаі да сённяшняга дня хабарнікаў расстрэльваюць.

У нас, на Беларусі, карупцыю папярэджваюць, а дакладней сказаць, зводзяць яе да мінімальных межаў толькі агульнасацыяльнымі мерамі і мерамі забеспячэння прынцыпу непазбежнасці пакарання. Гэта, як бачна, вельмі эфектыўны тандэм, які дазваляе падыходзіць да гэтай праблемы разумна і дакладна.

Вядома, што пералік злачынстваў, з прыкметамі карупцыі, у якіх не заўсёды галоўнай фігурай з'яўляецца дзяржаўны служачы, значна большы. Сюды ўваходзяць сферы сацыяльных адносінаў, у якіх звычайны грамадзянін трапляе ў залежнасць ад асобы другой арганізацыі ці ведамства пры вырашэнні сваіх сямейных, бытавых, жыллёвых і іншых праблем, а таксама сферы аховы здароўя і адукацыі. Менавіта з апошнімі большасць з нас і сутыкаецца. І калі мы даём хабар доктару ці медыцынскай сястры, то верым, што менавіта такім чынам мы дапамагаем сваім родзічам вылечыцца. А вось што датычыць адукацыі, то не задумваемся, што той "куплены" студэнт, які прайшоў у вышэйшую ўстанову за "кошт" бацькавай кішэні, пасля пятага курса становіцца гатовым спецыялістам па карупцыі. Лічачы яе натуральнай часткай сацыяльнай сферы, натуральным інструментам вырашэння сваіх праблем ён будзе прагматычна глядзець наперад не задумваючыся пра духоўнасць і культуру. І калі ўявіць, што такія "спецыялісты" ўжываюцца ў сацыяльныя групы, з якіх у будучым фарміруюцца палітычныя, эканамічныя, ваенныя, культурныя і іншыя эліты, то бачна, якія негатыўныя наступствы нясе карупцыя.

**Віктар ПАТАПЕНКА**

# ПРЫКАВАНЫЯ ДА СЛАВЫ



16 кастрычніка ў Брэсце завяршыўся IV Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў "Брэст-2003". Ужо па традыцыі (трэці фестываль запар) Гран-пры кінафоруму "За лепшае ўвасабленне нацыянальнай тэмы" атрымала дакументальная работа — відэафільм "Апошнія арлы" (рэж. Ігар Бышнеў), які расказвае аб нялёгкай працы арнітолагаў, адносінах чалавека з драпежнымі птушкамі і праблемах іх захавання на Беларусі. Прызам "Крыштальны бусел" за



лепшы мастацкі фільм быў узнагароджаны "Павадыр" Аляксандра Яфрэмава. А. сапраўдным фільмам-трыумфатарам гэтага фестывалю зрабіўся кінатвор Валерыя Рыбарава "Прыкаваны"(прызы "За лепшую рэжысуру", "За лепшую мужчынскую ролю" У. Гасцюхіну, "За лепшае экраннае ўвасабленне ідэі гуманізму", які ўпершыню ўручылі прадстаўнікі Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе). Па меркаванні журы, якое сёлета ўзначальваў рэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў Узбекістана Алі Хамраеў, лепшымі з дакументальных і відэафільмаў выглядалі стужкі Анатоля Алая "Салдаты Італіі" і Валерыі Скварцовай "Я тут жыву", а сярод анімацыйных карцін — "Музыка-чараўнік" Алены Туравай. Прызы "За лепшы сцэнарый", "За лепшае музычнае вырашэнне", "За лепшае выяўленчае рашэнне" былі ўручаны Ю. Ляшко (тэлесерыял "Сяброўка Восень"), кампазітару В. Капыцько ("Геній месца"), аператару Т. Логінавай, рэжысёру Г. Адамовіч ("Геній месца"). Сёлета шмат прызоў атрымалі студэнцкія работы. Напрыклад, лепш за ўсіх астатніх жанчын-актрыс сыграла маладая купалаўская артыстка Святлана Кажамякіна ў студэнцкім кароткаметражным фільме "Каханне?.." Спецыяльнымі прызамі імя народнага артыста Рэспублікі Беларусь М. Пташука "За лепшую студэнцкую работу", а таксама імя Віктара Турава "За яскравы дэбют у кіно" былі ўзнагароджаны маладыя рэжысёры Андрэй Голубеў і Алег Дашкевіч. Яшчэ адзін спецпрыз імя заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, кінааператара і рэжысёра Ю. Марухіна "За аператарскае майстэрства" атрымаў кінааператар і кінарэжысёр Дзмітрый Зайцаў "За ўнёсак у нацыянальную аператарскую школу".

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКУ: кадр з кінафільма "Прыкаваны".*

# ТУРАЎСКІЯ ВЕЧАРЫ

26 кастрычніка ў Магілёве распачнуцца "Тураўскія вечары", прысвечаныя вядомаму беларускаму кінарэжысёру Віктару Тураву, які нарадзіўся ў гэтым горадзе акурат 25 кастрычніка. Ладзіць вечары, якія пройдуць у кінатэатры "Радзіма", кінавідэапрадпрыемства "Позірк". У гэтыя дні будзе адкрыта і памятная дошка ў гонар В. Турава.






***Вытокі айчыннай духоўнай традыцыі трэба весці з тых лёсавызначальных пачаткаў нашай гісторыі, калі шматплямённая Белая Русь складала важнейшую паўночна-ўсходнюю частку былой славянскай прарадзімы, усю айкумену верхнедняпроўска-прыпяцкага басейна, жывым сведкам якой застаўся этнічны ізалят Палесся (паводле этналагічнай тэрміналогіі Л.Гумілёва).***

# СКРЫЖАЛІ ДУХОЎНАСЦІ І АДРАДЖЭННЯ




Знакамітыя старонкі нашай старадаўняй прыналежнасці да сарцавіннага ствала славянскага дрэва мы тут згадваем у сувязі з тым, што менавіта старабеларускае племя дрыгавічоў, самае вялікае і ўплывовае ў старажытнай Славіі (А.Шпілеўскі і інш.), у час другога славянскага рассялення дало этнічны парастак на Балканы, і, у прыватнасці, у раён Салуні, паклаўшы аснову новаму этнічнаму ўтварэнню македонскіх драгавітаў, радзіме першанастаўнікаў славенскіх, роўнаапостальных Кірыла і Мяфодзія, якія сваёй геніяльнай інтуіцыяй разгадалі таямніцы славянскага пісьма і нормы літаратурнай мовы, што заставалася агульнай мовай славян аж да XII стагоддзя, нарэшце, сваімі боганатхнёнымі перакладамі Біблii і святаайцоўскай літаратуры адкрылі эпоху славянскай кніжнасці, духоўнасці, культуры. У абгрунтаванні нашай прарадзіннай сваяцкасці з зямлёй Кірыла і Мяфодзія сыходзяцца як шматлікая школа балгарскіх славістаў, так і рознагаліновыя аўтарытэты айчыннай навукі: Я.Карскі, М.Доўнар-Запольскі, В.Ластоўскі, М.Гарэцкі, А.Шлюбскі, у сучасным пакаленні — Г.Цыхун, В.Лемцюгова, М.Грынчык, І.Чарота, Г.Тварановіч і інш. У гэтай сувязі М.Гарэцкі царкоўнаславянскую мову, як мову драгавіцкую, лічыў роднай мовай нашых продкаў і сам гістарычны перыяд беларускага пісьменства да XV ст. называў "царкоўнаславяншчынай" (Гарэцкі М. "Кароткі агляд беларускай літаратуры". "Полымя", 1990. № 5).

Пазней, у эпоху хрышчэння Вялікай Русі, унёсак беларускіх па-сапраўднаму апостальскіх дзеячаў быў асабліва значным у духоўнай асвеце ўсходняй Славіі. Асвеце ў яе трансцэндэнтнай этымалогіі як прасвятлення зямлі спазнаннем сусветнай Хрыстовай ісціны. Тут у місіянерскай апостальскай постаці асабліва вызначылася старажытная Полаччына. Так створанае роўнаапостальным Уладзімірам пасольства па дазнанні веры ў іншых народаў узначальваў слаўны муж з вялікакняжацкай дружыны імем Іаан Палачанін, пачэсная асоба якога вымагае ад нас яшчэ карпатлівых гістарычных даследаванняў. На наш погляд, з першых па велічыні для Белай Русі сапраўды апостальскіх, архетыповых асоб усё яшчэ недаацэньваецца Рагнеда ў яе шматпакутным падзвіжніцкім лёсе. Паганскі перыяд яе дынастычнага замужжа застаўся ў гістарычным ценю. Але як толькі заззяла зара хрысціянства на ўсходнеславянскіх землях, мудрая і мужная палачанка па прыкладзе роўнаапостальнай Вольгі (Алены), якую летапісец называе "мудрэйшай з усіх людзей", робіць лёсаносны для беларускага краю духоўны выбар. На прапанову Уладзіміра, які па хрышчэнні заключыў дынастычны шлюб з візантыйскай царэўнай, каб Рагнеда выбрала годнага мужа з князёў і баяраў, наша князёўна прамовіла гістарычныя словы: "Царыцаю я была, царыцаю і застануся... А калі ты спадобіўся святога хрышчэння, то і я магу быць нявестай Хрыстовай і прыняць анёльскае аблічча". І з імем Анастасіі (Уваскрэсенне) стала першай ва Усходняй Русі манахіняй і ігуменняй заснаванага ёю манастыра ў Заслаўі.

Паводле гістарычных звестак, старэйшы сын Рагнеды князь Ізяслаў быў пачынальнікам пісьменства на Полаччыне: яго пячатка з надпісам, паводле М.Ермаловіча, лічыцца ледзь не самым раннім усходнеславянскім пісьмовым помнікам. Аўтар Ніканаўскага летапісу натхнёна апісвае полацкага ўладара як асобу рэдкай хрысціянскай духоўнасці, асветніка манаскага складу: "Бысть же сий князь тих и кроток и смирен, и милостив, и любя зело и почитая священнический чин и иначеский и прилежаще почитанию Божественных Писаний и отвращаясь от суетных глумлений, и слезен, и умилен, и долготерпелив» (Полное собрание русских летописей. Т. 9. М., 1962. С. 68).

Другі сын Рагнеды Яраслаў Мудры ў сваім стольнакіеўскім княжанні ўвайшоў услед за бацькам, роўнаапостальным Уладзімірам, раўназначным яму дзеячам, у гісторыю не толькі ўсходніх славян, але і ўсяго еўрапейскага свету. Вялікакняжацкі двор поўніўся духоўнымі кнігамі, дарункамі для цэркваў і манастыроў. Любімы яго сын быў любамудрам і паліглотам, яшчэ большым кнігалюбам быў другі яго сын — Святаслаў, невыпадкова яго імя носіць знакаміты "Ізборнік Святаслава". "Руская Праўда" Яраслава Мудрага была ці не першым у Еўропе пісаным заканадаўствам ужо новай хрысціянскай традыцыі. Выдатнымі намаганнямі Яраслава Уладзіміравіча стольны Кіеў у кароткі часператварыўся ў адну з самых уплывовых сталіц: па сведчаннях заходняга храніста Адама Брэмена, яго называлі красой Усходу і супернікам Канстанцінопаля. Можна толькі вытлумачыць прамысленнем Божым, як ён, зрабіўшы Кіеў носьбітам узорнай культуры і духоўнасці на кантыненце і, павязаўшы дынастычным сваяцтвам асноўныя каралеўскія двары Еўропы (дамагаючыся шлюбу з яго дочкамі, каралевічы служылі рыцарамі ў вялікакняжацкім войску ці намеснікамі абласцей), не толькі змог абараніць маладую праваслаўную краіну ад няспынных варожых нашэсцяў, але і сваёй дальнабачнай дыпламатыяй садзейнічаць усталяванню працяглага міру на Захадзе.

Дзіўная пасіянарнасць гэтай выдатнай гістарычнай асобы знаходзіць вытлумачэнне ў гранічна выпрабавальных варунках ранніх гадоў жыцця князя. Прычына — цалкам духоўнага плана. Спружына яго неўтаймоўнай, усюдыіснай, мудрапраграмнай дзейнасці пачала раскручвацца пасля цуду ацалення яго ад дзесяцігадовага паралюшу ног манаскім зарокам і малітоўным подзвігам маці Рагнеды, па тым часе ўжо ігуменні Анастасіі.

Першай святой ва ўсходнеславянскім свеце ўшаноўваецца славутая яе наступніца, маці зямлі Беларускай ігумення Еўфрасіння Полацкая, якая сваёй вялікай асветніцкай дзейнасцю, манаскім падзвіжніцтвам набліжала пералом, перамогу над жудаснымі паганскімі звычаямі краю.

Неўзабаве незвычайнай сілы духоўны агонь успыхнуў у другім канцы Белай Русі ў светазорнай асобе Кірыла Тураўскага, манаха строгага подзвігу, пазней стоўпніка, неператўзыдзенага ў сваю эпоху духоўнага пісьменніка, невыпадкова названага сучаснікамі "Златоустом, паче всех воссиявшим нам на Руси". Гімнаграфія сусветнага значэння айчыннага псалмапеўцы, экзэгетычна заглыбленая сімволіка яго прытчаў усё яшчэ расчытваецца і інтэрпрэтуецца да нашага часу.

Мы мелі сусветна вядомыя дасягненні аднолькава ва ўсіх галінах духоўна-культурнай асветы, нягледзячы, здавалася б, на суцэльна выпрабаваныя абставіны нацыянальнай гісторыі. Сярод іх найперш належыць адзначыць унікальныя набыткі айчыннай біблеістыкі і перакладу Святога Пісання. Услед за складаннем поўнага зводу славянскай (Генадзіеўскай) Біблii ў Ноўгарадзе (1499), у якім, па звестках, удзельнічалі і беларускія багасловы, адразу знакамітымі нашымі кніжнікамі Мацеем Дзесятым ("Дзесяціглаў") і Фёдарам Янушэвічам ("Пяцікніжжа" Маісеева і "Гістарычныя кнігі") на працягу 1502–1514 гг. ствараецца свой самастойны рукапісны біблейскі кодэкс. Паводле сучаснай версіі, менавіта на яго аснове адзінаасобным подзвігам выдатнага дзеяча усходняга Адраджэння, духоўнага асветніка, першадрукара і энцыклапедыста ў шырокай галіне тагачасных ведаў Ф.Скарынам з 1517–1519 гг. у Празе Чэшскай, а з 1525 г. на радзіме ў Вільні ў яго беларускамоўным перакладзе з тлумачальным гласарыем выдаюцца 22 кнігі Старога Запавету, Апостал і ў складзе "Малой падарожнай кніжкі" Псалтыр, наследаваны з нумарамі яго ўласнай арыгінальнай гімнаграфіі (акафісты "Исусу Пресладкому" і "Предтечи и Крестителю Господнью Иоанъну"). Да таго ж, у прадмовах "В книги Перъвыи Царств" и "...Во всю Библию рускага языка" (кідаецца ў вочы напісанне "Бивлии" яшчэ ў старажытным даэразмаўскім чытанні) Ф.Скарына паведамляў "о всех книгах Бивлии, Ветхаго и Новаго Закона, мною на русъки язык выложеных" ("русъкай" ён называе родную мову, а "славенскай" – царкоўнаславянскую). Гэта часткова пацвердзілі адшуканыя ў XIX ст. Я.Ф.Галавацкім у бібліятэцы Львоўскага Ануфрыеўскага манастыра рукапісы перакладаў з падобнымі да скарынаўскіх прадмовамі трыццаці кніг Старога Запавету (Чацвёртая Ездры, Тавіта, Макавеяў, шаснаццаці пракокаў). А за Скарынавай Бібліяй, мяркуецца, у яўрэйскім асяродку з'явіліся выдатныя беларускія пераклады адзінаццаці кніг Старога Запавету, вядомых пад назвай "Кодэксу 262", і выключная па дакладнасці перакладу польскамоўная Біблія пры двары Радзівіла Чорнага, што, побач з іншымі, закладвала высокакваліфікаваныя традыцыі польскай біблеістыкі.

Эпахальнай падзеяй у славянскім рэгіёне з'явілася выданне ў ВКЛ на аснове Генадзіеўскага зводу першай славянскай друкаванай (Астрожскай) Біблii 1581 г., якая на працягу двух стагоддзяў абслугоўвала кананічныя патрэбы славянаправаслаўных памесных цэркваў. Гісторыя пакінула надзвычай красамоўныя водгукі аб ёй як знамянальным дасягненні ў сусветнай біблеістыцы. Знакаміты славянскі "будзіцель", чэшскі славіст І.Добраўскі аддаваў палову сваёй бібліятэкі за гэты неацэнны духоўны скарб у славянскай культу-



ры, а вядомы каталіцкі гамілет М.Андрэ-ла-Арасвігоўскі (XVII ст.), паводле яго прызнання, ахвяраваў усёй заходняй вераў дзеля Астрожскай Бібліі, бо толькі па яе дакладным кананічным перакладзе вучыўся па-сапраўднаму спасцігаць экзэгетычныя глыбіні біблейскага тэксту. Сёння Астрожская Біблія нам вядома больш ва ўдасканаленым варыянце Елізавецінскай Бібліі, тэкст якой прыняты за кананічны ўзор усімі праваслаўна-славянскімі аўтакефаліямі. Сучаснымі беларускімі медыявістамі карпатліва ўзноўлены працэс удасканалення перакладу тэксту славянскай Бібліі да яе цяперашняга стану, якое выконвалася маскоўскімі "спраўшчыкамі" зноў жа пад кіраўніцтвам пасланцоў з ВКЛ у асобе вядомых біблеістаў і рытараў Епіфанія Славінецкага, Стэфана Яворскага і інш., запрошаных царом Аляксеем Міхайлавічам як знаўцаў яўрэйскай, грэчаскай, лацінскай моў і рознабакова дасведчаных вучоных для наладжвання біблейскай справы ў Маскоўіі.

Стварэнне дасканалай біблейскай школы ў ВКЛ сталася магчымым дзякуючы жывой пераемнасці духоўных цэнтраў напачатку ў Полацку і Вільні, дзе Ф.Скарына сфарміраваўся ў энцыклапедычна падрыхтаванага біблеіста, здольнага на здзяйсненне вялікага духоўнага дзеяння – стварэнне беларускай Бібліі, што ў іншых народаў, напрыклад, у той час у Германіі рабілася шырокім колам галінова спецыялізаваных багасловаў, якія выконвалі пераклад знакамітай Лютаравай Бібліі. Пазней з-за ўціску праваслаўнай веры з боку католікаў з Вільні біблейскі цэнтр перамясціўся ў Супрасльскую Лаўру на Беласточчыне, вядомую ў праваслаўным свеце багатымі зборамі твораў святаайцоўскай літаратуры. На той час яе ігумен Сергій Кімбар сіламі аўтарытэтных беларускіх багасловаў стварыў рэдакцыйна-выдавецкі савет па новым славянскім перакладзе і выданні Бібліі. Абставіны скламіся так, што гэтая векапомная праца была выканана ўжо ў г.Астрозе мясцовым біблейскім гуртком-акадэміяй, куды перайшлі нарыхтоўкі рэдакцыйна-выдавецкага цэнтра Супрасля.

Пазней высокая культура астрожскіх біблеістаў атрымала пераемнасць, у нечым паклала пачатак заснаванню буйнейшага ў свеце праваслаўнага духоўна-асветніцкага цэнтра – знакамітай Кіева-Магілянскай Акадэміі. Яе стваральнікам і апекуном быў славуты рэфарматар праваслаўнай асветы Пётр Магіла, сын малдоўскага князя Сімяона, "прадстаўнік малдоўска-польска-беларуская адгалінавання дынастыі". Паводле ацэнкі сучасных даследчыкаў, на эпоху дзейнасці Пятра Магілы прыпадае наступная, асабліва высокая хваля духоўнага адраджэння. Яго паплечнікі і выхаванцы Сільвестр Косаў, Захарыя Капысценскі, Ісая Капінскі, Елісей Плецянецкі, Лазар Барановіч, Іанікій Галятоўскі, Інакенцій Гізель і іншыя, змяняючы адзін аднаго на свяцільскай кафедры Кіева-Пячэрскай Лаўры і ў кіраўніцтве Кіева-Магілянскай Акадэміяй у найтрагічную паласу "пасіянарнага надлому" нацыі ад ганення на праваслаўную веру, акаталічвання і паланізацыі, у беспрэцэдэнтнай па жорсткасці міжканфесійнай палеміцы, самаахвярным стаянні за веру бацькоў узнялі на нечуваную вышыню хрысціянскую апалагетыку, гамілію, экзэгезу Святога Пісання, даўшы сапраўдныя ўзоры "новай" патрыстыкі і пранікнёнага багаслоўя новага часу. Творы праваслаўнай палемічнай літаратуры ВКЛ асабліва цаніліся ў славянскім свеце. Багаслоўскую спадчыну Пятра Магілы, яго "Праваслаўнае выспаведанне веры", якое вытрымала безліч выданняў, стаўў у прыклад існага багаслоўя Амвросій Опцінскі. Да гэтай пары жамчужынай новазапаветнай экзэтыкі застаецца казанне Лазара Барановіча "Пра любоў да ворагаў вашых".



ЛАМЕНТЪ
Ѿ свѣта оубогихъ,
ЛЕОНТІА КАРПОВИЧА,
АРХІМАНДРІТА ѠБЩІА

Духоносная асветніцкая традцыя старажытнай Беларусі ўзрастала на аснове высокаразвітай, зноў жа духоўнай па сваім змесце філалагічнай культуры, слыннай у тагачасным свеце кніжнасці. Чатыры пакаленні старабеларускіх слоўнікаў ("Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста", "Лексіс" Л.Зізанія, "Сіноніма славенароская", "Лексікон славенароскі" П.Бярынды) і шэсць пакаленняў граматык ("Кграматыка славенаска языка" выдання, Мамонічаў, "Азбука" і "Граматыкія-буквар" І.Фёдарава з іх знакамітымі дыдактычнымі прадмовамі, "Граматыка славенская" Л.Зізанія, "Граматыка славенская" І.Ужэвіча на лаціне, выкананая, як мяркуецца, па заказе кардынала Рышэльё для Французскай Акадэміі, нарэшце, славутая "Граматыкі славенскія правілная сінтагма" М.Смотрыцкага). Створаныя ва ўмовах наступу уніяцкай дэнацыяналізацыі, гэтыя шэдэўры старабеларускай філалогіі змусілі змоўкнуць пракаталіцкіх апалагетаў (Пётр Скарга і інш.) у іх беспрынцыпным зневажанні славянскіх моў, нібыта не прыдатных для пропаведзі Божага Слова. Узорная для свайго часу філалагічная культура Беларусі, дасканалыя па сваёй будове старабеларускія



лексіконы і граматыкі паслужылі прататыпамі для стварэння ўласных лексіка-граматычных і ў цэлым лінгвістычных школ у паўднёвых славян, надзвычай цаніліся рускімі філолагамі новага часу (М.Ламаносаў, А.Вастокаў, Ф.Буслаеў) і былі непасрэдным мостам для трэцяга славянскага (беларускага) уплыву, для фарміравання і сваёй, пагэтулькі потым багатай, нацыянальнай філалагічнай традыцыі.

У сценах Кіева-Магілянскай Акадэміі класічнага росквіту дасягнулі тэорыя і практыка праваслаўнай гаміліі (пропаведзі), што выявілася ў хрысціянскім, глыбока змястоўным рэфармаванні прамоўніцкага майстэрства мінулага. За кароткі час знакамітымі гамілетамі і выкладчыкамі Акадэміі былі створаны многія дзесяткі трактатаў па красамоўстве, важнейшыя з якіх – "Слуцкі кампендыум па рыторыцы" Адама Рэйнгольда, "Навука кароткая, альбо спосаб злажэння казання" Іанікія Галятоўскага, "Рытарычная рука" Стэфана Яворскага, "Аратар Магілянскі..." Іосіфа Канановіча-Гарбацкага, "Рыторыка" і "Паэтыка" на лаціне Феафана Пракаповіча. У свой час была вядома "Рыторыка" Сімяона Полацкага, што таксама з ліку пасланцоў ВКЛ спрычыніўся да стварэння дзвюх акадэмій у Маскоўіі.

Пачынаючы з агульназемскіх прывілеяў 1387, 1414, 1449 гадоў, замацаваных у Судзебніку Казіміра 1468 г., з наступным іх удасканаленнем у рэдакцыях Статутаў 1529, 1566 гадоў, завершаных вядомым друкаваным выданнем Статута 1588 г., у Вялікім княстве Літоўскім было праведзена узорнае па тым часе ўкладанне законаў, якое дзейнічала ў Беларусі, на Украіне, у судах Латвіі і Эстоніі (у перакладзе на нямецкую мову) амаль да сярэдзіны XIX ст. Пры адсутнасці пісанага права ў Заходняй Еўропе таго часу Статут 1529 і 1566 гадоў адразу ж у абодвух варыянтах перакладаўся на лацінскую і польскую мовы, а ў наступнай удасканаленай рэдакцыі 1588 г. перавыдаваўся на працягу 1614, 1619, 1648, 1694, 1744, 1786, 1819 гадоў на польскую і рускую мовы, выкарыстоўваўся ў канцы XVI ст. пры кадыфікацыі Прускага права і таксама пры падрыхтоўцы Саборнага Укладання 1649 г. у Маскоўіі.

Дасягненні старабеларускай прававой тэорыі высока ацэньваюцца сучаснымі юрыдычнымі аўтарытэтамі, якія знаходзяць у статуце ВКЛ упершыню вырашэнне складаных тэарэтычных і практычных палажэнняў. (Гл.: Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік. Мн., 1992. С. 521—524.) Асабліва падкрэсліваецца пераадоленне шматлікіх "вузкіх месцаў" вядомага рымскага права, вопыт якога дасканала вывучаўся беларускімі правазнаўцамі (гл. "Зварот да ўсіх сасloўяў" Льва Сапегі ў сувязі з выхадам Статута 1588 г.). Пры ўсёй распрацаванасці юрыдычнай тэорыі у апошняй рэдакцыі Статута 1588 г. знамянальнай асаблівасцю заканаўкладання ВКЛ з'яўляецца непасрэднае наследаванне Маісеевага закона ў шматлікіх сферах прававых узаемадносін насельніцтва. А артыкулы аб пакаранні за любадзейства, аб пакаранні зводняў, аб пакаранні за выкраданне жонак, за што ўжывалася вышэйшая мера пакарання, аб праследаванні бадзячага нядзейнага насельніцтва, найстражэйшыя заканадаўчыя захады па ўпарадкаванні прыродакарыстання і іншыя з відавочнасцю наследаваны з Сінайскага кодэксу. Пра біблейскі дух, паслядоўна праведзены праз 13 раздзелаў з 283 артыкуламі Статута, сведчаць змешчаныя да іх афарыстычныя сцярогі са Старога Запавету аб правасуддзі.

Хрысціянскія народы на разварушанай прасторы СНД з нечуванай прагай, у спакутаваным пакаянні і сапраўдным голадзе па вечных каштоўнасцях узняліся да духоўнага абуджэння, якое здзівіла, сталася новай надзеяй планеты. І менавіта ў гэтым богапрызначаным на нашу ўсёкрызісную эпоху духоўным руху трэба бачыць заруку нацыянальнага, эканамічна-дабрабытнага, сацыяльнага і ўсялякага іншага народнага адраджэння. За кароткі час аднаўлена, памножана, узнята на небывалую вышыню хрысціянская культура, нібы і не было спапяляльных спусташэнняў атэістычнага сухавею. Пакутніцкі, пэмежна выпрабавальны лёс, які па волі лёсу выпаў славянаправаслаўнаму рэгіёну, вырасціў, выхаваў яго народы ў асабліва чуйнай адкрытасці Богу і "нябеснай айчыне", дух якіх раўнуе рэўнасцю сусветнай, ніяк не задавальняецца "раем зямным" сучасных дабрабытных народаў, наталяецца надзеяй, аптымізмам, перспектывай толькі вялікага наканавання чалавеку ў вечнасці. Сённяшняя, хоць і бясконца спакуслівая, рэальнасць выяўляе ўсе прыкметы вялікага ўсенароднага духоўнага абуджэння, прадказанага яшчэ Серафімам Сароўскім, пазнейшымі праваслаўнымі старцамі – Матронай Маскоўскай, Серафімам Вырыцкім, Самсонам Іверсам, Лаўрэнціем Чарнігаўскім і іншымі, што неслі абарончы малітоўны подзвіг за свой народ у Вялікай Айчыннай вайне. Аб вялікім усенародным праваслаўным адраджэнні пасля Другой сусветнай вайны, "падобнага на якое раней нельга было ўявіць", папярэджвалі таксама каталіцкі свет праз Фацімскае (Партугалія, 1916–1922) і асабліва Меджыгорскае (Харватыя, 1984–1994) аўленні Божай Маці, а пратэстанцкія цэрквы – праз відзенні Гудсона Тэйлара (Англія, 1850), Вільяма Брангама (США, 1933), па сведчанні якіх полымя духоўнага абуджэння праваслаўнага Усходу перакінецца на Захад і ажывіць дарэшты секулярызаваныя яго канфесіі.

**Алесь ЯСКЕВІЧ**









**16 кастрычніка "Літаратурны квартал" прымаў паважанага госця. Вядомы літаратуразнаўца, перакладчык, прафесар Вячаслаў Рагойша прэзентаваў на пасяджэнні "Літаратурнага квартала" сваю новую кнігу — "На шляху да Парнаса. Даведнік маладога літаратара". Вячаслаў Пятровіч расказаў пра прэзентацыю выдання, адказаў на пытанні прысутных, раздаў аўтографы... А потым разам з кварталаўцамі ўзяў удзел у традыцыйным слуханні-чытанні — абмеркаванні вершаў, прычым не толькі як слухач. У гэтым працэсе таксама ўдзельнічалі Андрэй Ключнікаў, Віктар Іваноў, Аксана Спрынчан, Віка Трэнас, Наталля Капа, Юлія Новік, Мікола Кандратаў, Марыя Шамякіна, Ганна Бесан, Зміцер Арцюх, Аксана Бязлепкіна, Валянціна Гарністава, Таццяна Барысюк, Ігар Клепікаў, Таццяна Будовіч, Сяргей Патаранскі.**

**На наступным пасяджэнні будзе абмяркоўвацца творчасць Ігара Клепікава.**

**Нагадаем, што "Літаратурны квартал" збіраецца шточацвер у памяшканні рэдакцыі а 18-й гадзіне.**

# У ПОШУКУ ІЕРУСАЛІМА

**Вершы, у якіх дамінуюць хрысціянскія матывы, — гэткім чынам хацелася б ахарактарызаваць лірыку, што складае змест паэтычнага зборніка Івана Лагвіновіча "Ляда юдолі" (ён выйшаў сёлета ў Баранавічах; спрычыніліся да выдання паэты Алесь Каско — рэдагаванне і Леанід Галубовіч — укладанне і прадмова). Расквечанае і прыхарошанае Божае слова легла ў аснову літаральна ўсіх твораў, з якімі можна пазнаёміцца ў гэтай кнізе. Аўтар "прапусціў праз сябе" тое, што гаворыцца ў свяшчэнных кнігах Бібліі, Святым Пісанні. Ён сагрэў халодную разважлівасць правільнага і справядлівага вучэння, слушнасць якога не можа падлягаць ніякім сумненням, цеплынёй свайго сэрца, чулага і адкрытага свету. А ў выніку зрабілася цяплей і ягонаму чытачу.**




**Безумоўна, словамі "рэлігійная тэматыка" ахоплена далёка не ўсё, што цікавіць і турбуе ўжо немаладога паэта. У яго зборніку хапае твораў пейзажнай, інтымна-філасофскай, грамадзянскай лірыкі. Тым не менш галоўная ідэя, на якой грунтуецца сэнс гэтай кнігі, — ідэя аб непераможнасці, усюдыіснасці Боскага вучэння. Паэт сімпатычны нам сваёй, можа быць, крышачку наіўнай верай у цуд, у перамогу святла над цемраю. Ён перадае і нам гэтую веру і гэтую надзею. Спадзеў жывіць нас, вучыць, як варта жыць, каб было лепей і самому чалавеку, і тым, хто з ім побач.**

**Прываблівае шчырасць аўтара кніжкі. Адчуваецца, што ён проста па самой сваёй натуры не здатны хлусіць і прытварацца. Напяты, як струна, звонкі голас паэта чуцён далёка... Прыгадаем старонкі жыццёвай і творчай біяграфіі Івана Лагвіновіча: нарадзіўся ў 1940 годзе ў Ганцавіцкім раёне (хутар Запрапасць непадалёк ад с. Малькавічы), закончыў сем класаў, пасля пераехаў у Данбас, быў там шахцёрам. З 1990-га на пенсіі. Вярнуўся на радзіму і жыве ў Баранавічах. Друкаваўся ў рэспубліканскай перыёдыцы. Гэта трэцяя кніжка паэта — раней выйшлі яго зборнікі "Разлукі выраёвыя", "Піліпаўка". Іван Лагвіновіч — сябра СБП.**

**Чакаеш ад паэта новых творчых удач і здзяйсненняў. Бо шмат абяцаюць старонкі яго чарговага паэтычнага зборніка. Нечага лепшага заслугоўвае гэтая творчая асоба... Большага прызнання, большай чытацкай увагі і, нарэшце, чалавечай спагады, прыязнасці.**

**С. Я.**

### У рэдакцыю "ЛіМа"

**У выніку выпадковага збегу абставін і па маім недаглядзе ў альманаху "Панядзелак" пад маім прозвішчам надрукаваныя чужыя вершы. Прыношу свае прабачэнні рэдкалегіі альманаха і чытачам.**

**Юрый КАЧАТКОЎ**



# ГОЛАС ПЯВУЧАЙ СТРУНЫ

Не будзе вялікага сакрэту і адкрыцця, калі сказаць, што кожны аўтар, якім бы ён не валодаў талентам, ідзе ў літаратуру сваёй уласнай і як бы загадзя вызначанай дарогай. У адных творчы неспакой праяўляецца і ўзнікае яшчэ ў школьныя гады, здараецца, што і раней. І пачынаючы паэт ці празаік заносіць на паперу першыя свае радкі, робіць першыя крокі ў вялікую літаратуру.

Але маюцца і такія паэты, якія спачатку ствараюць сваю біяграфію, працуюць на будоўлі альбо ў майстэрні простымі рабочымі, пракладваюць прасекі ў тайзе, каб ведаць жыццё ва ўсіх яго праявах і вымярэннях, як гэта было і з Алесем Бажко. Знаёмячыся з яго жыццяпісам, бачна, што перш, чым узяць у руку пяро і засеяць чыстае поле аркуша паперы зернем літар, яму давялося прайсці даволі складаную, у нейкай ступені нават драматычную жыццёвую дарогу. Некаторыя біяграфічныя штрыхі і дэталі не толькі здзіўляюць, але і выклікаюць недаўменне сваёй неардынарнасцю і экстравагантнасцю. Без перабольшання можна сказаць, што з самага пачатку жыццёвага шляху будучага пісьменніка з ім адбываліся неверагодныя рэчы і з'явы, якія нагадваюць хай сабе і не падэтэктыўнаму прыгодніцкую і авантурыстычную, аднак ледзь не фантастычную гісторыю. У тое, што адбылося з А. Бажко ў юнацтве, цяжка нават паверыць. Памяркуйце самі, юнак, які нарадзіўся і жыў у былой Заходняй Беларусі, трэба падкрэсліць, у беднай сялянскай сям'і, пасля заканчэння сямігодкі раптоўна, як па ўзмаху чароўнай палачкі, становіцца студэнтам музычнага інстытута імя Станіслава Манюшкі ў Навагрудку і займаецца ў ім два гады. Відаць, займаецца і вучыцца не толькі паспяхова, а больш, чым выдатна. Бо як інакш можна вытлумачыць прычыну таго, што далейшая яго дарога вядзе не ў які-небудзь заштатны гарадок, а проста ў Варшаўскую кансерваторыю. Вядома, гэтаму спрыялі не сувязі бацькоў А. Бажко з уплывовымі і магутнымі людзьмі, а незвычайныя музычныя здольнасці выхадца з простай сялянскай сям'і. Не сакрэт, што ў такую святая святых, якою ў даваенныя гады з'яўлялася Варшаўская кансерваторыя, не гэтак лёгка было прабіцца нават тым, хто не толькі меў багатых і ўплывовых бацькоў і апекуноў, што належалі да арыстакратычнай вярхушкі тагачаснай Польшчы, але і валодалі немалымі здольнасцямі і музычным талентам. З усяго гэтага можна прыйсці да высновы, што А. Бажко ад самага свайго нараджэння быў надзелены проста фенаменальнымі музычнымі здольнасцямі. Гэта яму і дапамагала ўпэўнена і параўнаўча лёгка ісці да адной запаветнай мэты — стаць не толькі музыкантам-прафесіяналам, але і скрыпачом-віртуозам. Ды, на вялікі жаль, усе яго мары і планы рухнулі за адно імгненне і з такой хуткасцю, што юнак не мог зразумець, што адбылося.

Што ж здарылася, устала неадольнай сцяной на дарозе А. Бажко да музычнай вяршыні?! Як гэта ні дзіўна, ні ў адным яго вершы, паэме ці іншых матэрыялах нельга знайсці ні прамога, ні ўскоснага адказу, нават нязначнага намёку на гэта пытанне. І ўсё-ткі, калі зыходзіць з гістарычных падзей, няцяжка здагадацца, што вучобу А. Бажко ў кансерваторыі перарвала сусветная вайна, калі гітлераўская Германія вераломна напала на Польшчу і праз некалькі тыдняў захапіла Варшаву. Думаецца, яшчэ да акупацыі польскай сталіцы А. Бажко пакінуў вучобу ў кансерваторыі і накіраваўся ў Беларусь, да сябе ў вёску, дзе жылі бацькі.

Урэшце яму давялося прайсці праз такое полымя вайны, столькі згубіць сяброў, пабачыць разруху і знішчаныя каштоўнасці, што ўсё гэта цяжка было ўсвядоміць. "Зацішных не было часін. Агонь я кулямі касіў.... Агню ўсё роўна дзе гарэць... Згарэў мой кут, згарэла клець" — у гэтых радках — глыбока асабістае, інтымнае і аўтабіяграфічнае. Сказана не толькі метафарычна і афарыстычна, але і супярэчліва. Што значыць і як зразумець сцвярджэнне: "Агонь я кулямі касіў"? Хіба кулі і агонь не адно і тое?! Якім гэта чынам можна агонь "касіць" і тушыць агнём? А што ж тут дзіўнага! Гэтым метадам паспяхова карыстаюцца лясныя пажарнікі. Лясны пажар, які нельга ўтаймаваць ні вадой, ніякім іншым спосабам, яны гасяць сустрэчным агнём. Падпальваюць на яго шляху лес, і, наляцеўшы на агонь, пажар як бы спатыкаецца, губляе сваю сілу і гасне. Вось так, напэўна, гасіў полымя вайны і Алесь Бажко. Ён сустракаў захопнікаў кулямі, каб яны не неслі далей полымя вайны і разруху.

І ў рэшце рэшт, раніўшы А. Бажко на Заходнім фронце, вайна як быццам паставіла кропку на яго ўдзеле ў баявых дзеяннях. Калі ён адлежаўся ў ваенным шпіталі і стаў на ногі, медыцынская камісія падвяла тлустую рыску пад яго знаходжаннем на фронце. А. Бажко накіравалі ў будаўніча-абаронны атрад, які знаходзіўся ў Архангельскай і Валагодскай абласцях. Там ён і прайшоў нялёгкі шлях ад простага рабочага да каменданта Валагодскага ўчастка ваенна-будаўнічых работ, а па камсамольскай лініі падняўся да сакратара камітэта гэтага ўчастка.

Навыкі і вопыт, якія ён набыў на камсамольскай рабоце, спатрэбіліся яму ў роднай Беларусі, куды ён вярнуўся адразу пасля заканчэння вайны, дзе яго прызначылі спачатку інструктарам Баранавіцкага абкама камсамола, а потым першым сакратаром Дзятлаўскага райкама камсамола. Трэба думаць, ён быў неблагім камсамольскім работнікам і з цягам часу пайшоў бы крута ўгору, і праз колькі гадоў мог апынуцца на самым версе партыйнай піраміды.

Але такая перспектыва, відаць, не радавала А. Бажко. І зноў у яго жыцці адбываецца круты паварот: ён пакідае камсамольскую работу і становіцца простым, але працавітым газетчыкам. З гэтага часу на старонках абласных і рэспубліканскіх газет пачалі з'яўляцца яго вершы. Ці трэба гадаць пра тое, — калі пачаў пісаць А. Бажко вершы: за школьнай партай ці пазней, будучы студэнтам? Але трэба зазначыць што чытаючы яго творы, складваецца ўражанне, што ў маладога аўтара не было перыяду вучнёўства. Здаецца, ужо ў першых сваіх вершах ён заявіў пра сябе як паэт, які ўжо склаўся, меў свой голас, манеру пісьма, адносіны да навакольнага свету і многае іншае. У А. Бажко былі адменны, гранёны інтанацыйна-рытмічны чаканкі радок, ясная і зразумелая думка, свая тэма, свой падыход да яе рашэння пры дапамозе мастацкіх сродкаў, хаця ён не надта захапляўся густой вобразнасцю і метафарычнасцю. У сваіх вершах ён выступаў больш як апавядальнік, чым лірык. Калі пісаў верш, то ледзь стрымліваўся, каб не надаць яму апавядальную форму. Хаця многія вершы не выходзяць за рамкі прывычнай традыцыйнай паэтыкі, тэм і задум, многае ў іх кладася на паперу густымі акварэльнымі мазкамі і штрыхамі. Дзякуючы гэтаму яны глыбока западалі ў душу, тым больш, калі паэт гаварыў пра свой народ, яго гістарычнае мінулае і цяперашні дзень:

*На мой народ вярнулі ўсе грахі,*
*Шыпелі з-за вугла, што быў глухі,*
*Калі бяда здараецца з сябрамі.*
*А хто ж для іх працерабіў шляхі?*
*Хто з году ў год вазіў*
*ад нас "зубраў"*
*Сваім суседзям радасць на засеў*
*І назамен нічога не прасіў.*
*Быў час — з кары пяклі мы пірагі,*
*Жылі ў глухіх барах, як уначы.*
*А Нёман рваў крутыя берагі*
*І клікаў нас з сабой удалячынь.*

Згадзіцеся, што словы "народ", "грахі", "глухі", "бяда" ды іншыя паняцці абстрактныя, адцягненыя. Але А. Бажко ставіць іх у такі шэраг, ужывае ў такім словазлучэнні, што мастацкія дэталі робяцца зрокавымі, і важкімі. Дарма, што ў вершы мы не знойдзем незвычайных мастацкіх вобразаў, асабліва адкрыццяў, не сустрэнем вытанчаных, з арыстакратычным глянцам і салоннай выпешчанай напышлівасцю какоткія рыфмы, верш прыцягвае нашу ўвагу публіцыстычнай завостранасцю і грамадзянскім гучаннем, гарачай палемічнасцю і аўтарскай шчырасцю, выразнасцю сваёй грамадзянскай пазіцыі.

Многія вершы А. Бажко сведчаць пра яго схільнасць выкарыстоўваць бытавыя дэталі і рэаліі, якія дапамагаюць больш выразна паказваць характар лірычнага героя, абмалёўваць абставіны і час, у які ён жыве і дзейнічае.

З неаслабнай увагай знаёмімся мы і з тымі вершамі, у якіх гаворка ідзе пра нешта сваё асабістае, інтымнае, напрыклад, пра музычныя інструменты, цымбалы і скрыпку, да якіх паэт, безумоўна, адносіцца неабыякава бо, як мы ведаем, яны адыгралі ў яго жыцці не апошнюю ролю. У такіх вершах мы стараемся знайсці хаця б нейкі намёк на той драматычны збег падзей і абставін, што не дазволіў стаць яму сапраўдным скрыпачом. І тым не менш, цікава даведацца пра тое, як нарадзілася ў душы юнака любоў і цяга да музыкі і музычных інструментаў. Паэт піша: "Цягаў і я жывыя сосны ў клець, пакуль адна ў руках не застагнала. "Не хоча ў печы, матухна, гарэць", — сказаў мне бацька і зрабіў цымбалы".



Не можа не заінтрыгаваць першы радок, дзе паведамляецца, што будучы паэт "цягаў... жывыя сосны ў клець". Чаму юнак і яго бацька вось так рабілі? Больш верагодна, што тут гаворыцца пра начны промысел селяніна-беззямельніка, які з сынам ціхом, мякка кажучы, бралі ў панскім лесе сасну-другую і бёрны хавалі ў клецi, каб яны не кідаліся ў вочы каму не трэба. За такі незаконны промысел у бацькі маглі быць вялікія непрыемнасці.

Як мы ведаем з верша, адна сасна застагнала, бацька здагадаўся пра намёк і змайстраваў цымбалы. А далей гаворка пра тое, што адбывалася з цымбаламі і будучым паэтам: "Пад іх напеў я акупантаў сек, хадзіў на спеўкі ў дальнія калгасы". Сказана, трэба думаць, з аўтабіяграфічнай дакладнасцю і дакументальнасцю. Верыцца і ў тое, што першы сакратар райкама камсамола мог іграць на цымбалах дзе-небудзь у вёсцы на спеўках ці танцах. Не пакінула паэта цяга да цымбалаў і скрыпкі і сягоння. Ён сведчыць: "Сябры жартуюць: "Пасівеў ты,


У Вязынцы А. Бажко, оперны спявак П. Конюх і У. Мялешка. 1975г.

брат, а струны рвеш, не ў прыклад, як малое..." Тут горкая праўда на ўзроўні бытавой канстатацыі факта. Яе аўтар уклаў у вусны сваіх сяброў. Сам ён гаворыць сабе і іншым: "Рву, бо жыццю і новым песням рад і не магу забыцца на былое." Радкі гучаць, як апраўданне перад самім сабой і сябрамі. І, нарэшце, з душы паэта вырываецца самае балючае і перажытае: "А ўсё таму, што некалі вясною пачуў той стогн, абронены сасною". У вершы, як у люстэрку, адбіліся некаторыя аўтабіяграфічныя штрыхі паэта.

Цымбалы і скрыпка для А. Бажко не толькі дарагія рэчы і музычныя інструменты, да якіх ён прывык і прысох душой і сэрцам, але ў нейкай меры сталі часткай яго жыцця, сімвалам творчасці. Яны кожнае імгненне разам з ім, гавораць і нагадваюць пра многае: дзяцінства і маладосць, юначае захапленне музыкай і раптоўную ростань са сваёй марай. Але паэт аптымістычна глядзіць у будучыню:

*Нашто хлусіць: у плузе мой Пегас*
*На панскім полі да вайны звячэў,*
*Але са скрыпкаю яшчэ не раз,*
*Калі ў дарозе не самкну вачэй,*
*Прыйду, сябры, ў адведзіны да вас.*

Трэба адзначыць, што ў сваёй большасці вершы А. Бажко выразныя па думцы і дакладныя па сваіх мастацкіх дэталях, што нагадваюць сабой выбітыя ці высечаныя на камнях старадаўнія малюнкі. Радкі такіх вершаў, як гаварыў калісьці А. Твардоўскі, часам хочацца пакратаць рукой, настолькі яны зрокавыя, канкрэтныя і, здаецца, прадметна-асязальныя. Вось адзін з яркіх прыкладаў:

*Поле — камяні, камяні — поле,*
*Камяні — не кляні:*
*касадрэвіна голлем*
*Абняла валуны —*
*паспрабуй падступіся,*
*Мо вылазіць з-пад іх*
*на парэпанай пысе.*

А каго не могуць не захапіць вось гэтыя радкі, што напоўнены па-народнаму глыбокім сэнсам, душэўнай цеплынёй, метафарычнай мнагазначнасцю і напеўнасцю:

*Дунай па дарозе у Чорнае мора*
*Не раз начаваў,*
*прытаўшыся, ў горах.*
*А следам па свеце*
*звінела навіна:*
*Дунай нагуляў*
*у Славакіі сына.*
*Паплыў ён за бацькам,*
*разбойнік, пустыня,*
*І зліўся навек з ім*
*на дальняй чужыне.*

Няцяжка заўважыць, што мастацкія дэталі ў вершах А. Бажко, параўнанні, метафары, якія нагадваюць рознакаляровыя шклінкі, усплываюць, свецяцца, калі на іх трапляе святло. А з іх у сваю чаргу складаецца мазаічнае пано. Па ім можна чытаць ці здагадвацца пра нейкія перыпетыі, што адбываліся ў жыцці не толькі лірычнага героя, але і самога паэта.

Аднак самым значным дасягненнем у творчым арсенале А. Бажко з'яўляюцца яго лірычна-эпічныя паэмы і аповесці, якія стаяць, як сказаў калісьці Маякоўскі: "Свинцово тяжело, готовы к смерти и бессмертной славе, к жерлу прижав жерло, зияющих нацеленых заглавий". У такіх творах, як "Татры", "Карвіга пакідае хутар", "Лясныя грушы", "Блакітныя вербы", з эпічным гучаннем дадзена шырокая панарама сялянскага жыцця ў былой Заходняй Беларусі як да вайны, так і ў пасляваенныя гады. Паэт намаляваў даволі шырокую і прадстаўнічую галерэю партрэтаў прадстаўнікоў розных слаёў сялянскага насельніцтва: ксяндзоў і пробашчаў, войтаў і памешчыкаў, асаднікаў і простых сялян, мясцовых актывістаў і беднякоў. Іх жыццё і лёс нейкім чынам пераплятаюцца паміж сабой, сведчаць пра тое, што іх цікавіла і непакоіла, за якія ідэалы яны змагаліся і чаго дасягнулі.

Ці варта гаварыць банальнае, нешта падобнае на тое, што гэтыя творы чакаюць свайго ўдумлівага даследчыка, нейкага асаблівага прызнання. Заўважым, што паэмы і аповесці А. Бажко стаяць як бы асабняком у нашай літаратуры, і, чытаючы іх, цікава прасачыць, як нейкая частка нашага народа жыла ў пэўны прамежак сваёй гісторыі пры пэўных умовах. Напісаны яны на адпаведным мастацкім узроўні і з веданнем паэтычных законаў, маюць свой стыль, сваю стыхію і многа чаго іншага цікавага і адметнага. Аўтар стварыў свае паэмы і аповесці з разуменнем таго, пра што ідзе гаворка, бо ён жыў сярод людзей, пра якіх пісаў, і яму не трэба было нешта выдумляць, замяняць праўду непатрэбным сурагатам фальшу і падробкі пад жыццё.

Як і ў кожнага творцы, у Алеся Бажко неўтаймаваная душа і характар. Ён і цяпер, нягледзячы на ўзрост і ўсялякія хваробы, што падступаюць з розных бакоў, не выпускае з рук пяро. Апошнім часам ён працаваў над публіцыстычнай паэмай "Адплата", у якой аналізуе палітычныя падзеі канца мінулага стагоддзя і пачатку новага тысячагоддзя, дае прачуханца некаторым шаманам і факірам ад палітыкі, хаця з некаторымі яго высновамі і палажэннямі цяжка пагадзіцца. Такая ўжо натура і душа ў кожнага сапраўднага паэта — рупіцца, рухавіцца і шчыраваць, як пчала, пакуль бачаць вочы, б'ецца сэрца і рука трымае пяро.

**Васіль МАКАРЭВІЧ**


На дэкадзе польскай літаратуры. 1976 г.

СЛОВЫ ПРА СЛОВЫ

# ПРА МАКСІМА ЛУЖАНІНА

Я нават не магу пэўна вызначыцца: хто для мяне ў нашым пісьменстве Максім Лужанін — паэт, крытык, мовазнаўца ці класічны літаратурны сакратар? "Неспарадкаваная хата" яго паўсядзённых нататак у "Дзеяслове" падчас напамінае мне разрозненны збор літаратурных павучанняў і выходных канцылярскіх характарыстык, што практыкаваліся ў былой "саўпісаўскай" бюракратыі, ад чаго, на мой погляд, М.Лужаніну адкаснуцца напрач так і не ўдалося. Нават падчас перабудовы, на самым прыканцы 88-га ён піша: *"Каб ісці далей у свабоду. Думаў пра гэта, ідучы ў ЦК па выкліку Першага. Што яму скажам, што пачуем? Бо без волі Першага ў нас нічога не робіцца".* І ніводнага ўнутранага намёку напеpакор...



Цікавыя характарыстыкі дае ён і сваім калегам па пяры, згодна лепшым традыцыям беларускай літаратуры: узважваючы, не забывай класці на абедзве шалі...

Да прыкладу: *"Ці гэта нешта зусім новае, сапраўды патрэбнае сучаснаму чалавеку, ці я ўжо безнадзейна састарэў духоўна. Але як лічыць гэта за паэзію ці за прозу? "Версэты і вершаказы" Алеся Разанава ў "ЛіМе" — цэлая палоса. А якая розніца паміж імі: і ў тых, і ў тых — ні думкі, ні формы".*

Гэта зачын. А напрыканцы: *"Надзвычайнай і ў той жа час чыстай праўды хочуць і чакаюць людзі. Алесь Разанаў шукае дарогі да гэтага. Няхай ягоныя намаганні не супадаюць з маімі ўяўленнямі пра паэзію. Але ў ягоных радках чутна агромністая праца галавы і рук, чуцён крок мастака".*

Пра А.Карпюка. Напачатку: *"Чытаў у "Нёмане" ягонае "Развітанне з ілюзіямі", толькі пачатак. Але абяцаў ён большае. Рэзка высветленая праўда, не шкадуе ні сябе, ні іншых, выгортвае з душы ўсё, дзе адчувае стрэмку. Мусіць, акрамя "Споведзі" Ларысы Геніюш нічога такога ў нас не было.* (А вось на наступны "засакрэчаны" сказ прашу звярнуць асобную ўвагу — Л.Г.) *Бо раманы і ўспаміны былых лагернікаў, безнадзейная рыфмоўка і блізка не стаялі ад такой бязлітаснай праўды".*

І напрыканцы: *"Дачытаў Карпюка. Усюды рэзкі голас праўды. Дзякуй табе, чалавеча! Хачу адно сказаць, што тое-сёе падаецца завужана. Часамі толькі свая крыўда і тыя, што чынілі яе. Праўда, і праз гэта прачытваецца час і асяроддзе, але можна было і трэба было абагуліць. Ён гэта мог. А так, той-сёй будзе чытаць не без цікавасці, але ўспрымаць, як немы лямант пакрыўджанага".*

Яшчэ: *"Невысокі Аркадзь Куляшоў круціць высокую і магутную ў параўнанні з ім Нону Мардзюкову. Хутчэй яна яго. Дакруціўшы да нас з У.Коршакам, яна амаль і пасадзіла партнёра на крэсла: наце, маўляў, ваша сцэнарнае кіраўніцтва, яно мяне не павалачэ".*

А на завяршэнне — адкат: *"Успомніў куляшоўскія радкі (не пра яе):*

*Была в Орше.*
*Виделась с Коршем.*
*Очень сморщен.*
*Лучше Поршнев.*

*Поршнеў быў дырэктар карцін, сімпатычны здаравец".*

Ну і пра М.Дубянецкага: *"Многа дабра рабіў людзям і ў ЦК, калі працаваў там, і ў выдавецтве, пакуль не збіў яго з ног інфаркт. Мог ён і назву ў выдавецкім плане замацаваць, і колькасць аркушаў у кнізе павялічыць, і сказаць што да ладу ў абарону кнігі (Быкаў)".*

І: *"Шкада чалавека. Яму мала перайшло за 50. Але не шанаваўся зусім, казалі, заглядваў у шклянку не менш, як да першай хваробы".*

Адчуваецца ў напісаных на гэтых людзей "характарыстыках" нешта падобнае на патайное выкрывальніцтва: усё выкладаецца праўдзіва адносна тых, пра каго ён піша, аднак, — абачліва для самога сябе.

*"Пакрыўджаны пісьменнік кепска піша",* — выдатна напісаў М.Лужанін у гэтых сваіх нататках. Бо сам ён — не з надта пакрыўджаных. І піша нядблага. Але... няма ў яго тэкстах той чалавечай шчырасці, наяўнасць якой у мастацкай творчасці дадаткова тлумачыць не патрабуецца.

А мажліва, я перабіраю ў сваёй крытыцы, бо сапраўднай прычынай такога стаўлення да пісьменніка з'яўляецца мая ўстойлівая ўнутраная антыпатыя да яго асобы. Аднак пра тое будзе гаворка пры іншай нагодзе. (Даўно вядома, што пра нябожчыка трэба гаварыць альбо добра, альбо — нічога. Будзем лічыць, што я не кажу *нічога*... новага.)

А вось чым мяне зачараваў М.Лужанін, дык гэта веданнем і любоўю да жывой, натуральнай (і, на жаль, перажытай ім) мацярынскай мовы. На мой погляд, актыўна працуючы ў мовазнаўстве, ён мог бы прынесці беларускай літаратуры больш карысці, чым нечым іншым. Патэнцыял яго так і застаўся не выкарыстаным. Шкада.

Усё ж не будзем рабіць нейкіх "пракурорскіх заключэнняў" адносна творчасці гэтага літаратара, не прачытаўшы дарэшты яго (нарэшце даведзенай некім да выдавецкага ладу) "Неспарадкаванай хаты"... Гэткая ў чалавека планіда і такая ў яго праўда... (Дый нашая — таксама ж не мёд...)

І яшчэ — не хацелася б, каб лёс горка пасміхнуўся над ім. Каб не атрымалася так, што за саветамі Яўгенію Пфляўмбаўм ведалі як жонку паэта Максіма Лужаніна, а ўжо заўтра самога Максіма Лужаніна — усяго толькі як мужа выдатнай паэткі Яўгеніі Пфляўмбаўм...

Вядома, найлепш было б, каб іх вызнавалі разам, як два, некалі выпадкова зарыфмаваныя, радкі беларускай паэзіі...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# 18 ТЫСЯЧ «МИШУТОК»

"Як пры сустрэчы паводзіць сябе з іншапланецянамі?.. (Тое, што такая сустрэча — справа будзённая, як прыгаворваў Карлсан, нават не падвяргаецца сумненню. Ты гэтага не ведаеш? Тады запамінай. "Першае — не паказваць на іх пальцам і не крычаць "Вырадак!" (Між іншым, ты ім таксама можаш падацца вырадкам, але ж яны з гэтай нагоды не ўсчынаюць лямант.) Другое — не адкручвай гайкі з іх лятаючых талерак і не пішы на борце: "Тут быў Вова..." І наогул пры сустрэчы нават з вельмі малым іншапланецянінам — будзь чалавекам".

Калі я прачытаў гэтыя правілы, разгарнуўшы часопіс "Мишутка" № 9 за сёлетні год, дык неадкладна купіў яго, таму што ішоў у госці ў дом, дзе жыла шасцігадовая дзяўчынка. Часопіс аказаўся не проста сімпатычным (афармленне, паліграфія, вёрстка...) — ён быў зроблены ў лепшых традыцыях нашай дзіцячай перыёдыкі яшчэ маршакоўскіх часін. Педагогі, несумненна, прызнаюць гэты часопіс "сваім": ён, кажучы настаўніцкаю моваю, і развівальны, і навучальны. Я б яшчэ дадаў: "Мишутка" вучыць дзяцей усміхацца. Даўняя думка мудрацоў: жыццё тады ўспрымаецца нармальна, калі яно "прасвечвае" праз казку і жарт. Я памятаю, мая бабуля казала: "Для ўсяго ў жыцці павінна быць свая ўсмешка". Акурат гэтаму і вучыць "Мишутка". Так і чуецца яго казачны галасок: "Хто спаў на маёй пасцельцы?!" І ўжо ўвесь змест часопіса ўспрымаецца праз малое мядзведзяня і ад яго імя. А змест для такога фармату надзвычай разнастайны. Гэта ўжо вядомыя вам правілы паводзін з іншапланецянамі, якія аказваюцца прыдатнымі і пры сустрэчы зямляніна з зямлянінам, і "шырокафарматныя" рэбусы і чайнворды з правіламі іх прачытання, прызвычаіўшы заданні, старонка "Чамучкі" (у № 9 дзецям распавядаецца аб прыродзе паўночнага ззяння...). Вельмі натуральна ўпісалася ў разварот часопіса гульня "Востраў скарбаў", пабудаваная паводле славутай аповесці Стывенсана. (Тут жа ненадакучлівая парада прачытаць гэтую "вечную" кнігу.) Ёсць і любімыя сёння дзецьмі коміксы, карцінная галерэя чытачоў, у якой Даша Кандратовіч, Кацця Ермаковіч, Саша Макоўчык і яшчэ сямёра юных мастакоў пазнаюць свае малюнкі. Ёсць і староначка пошты, дзе надрукаваны лісты сяброў "Мишутки" з фотаздымкамі іх аўтараў.




Я пішу не рэцэнзію, а ліст у рэдакцыю газеты. Мне, як былому настаўніку, хочацца, каб дзеці Беларусі чыталі гэты разумны і карысны часопіс. "Мишутка" выходзіць ужо пяць гадоў і мае нежартоўны для сённяшняга дня тыраж — 18 тысяч! Гэта цудоўна!

Але ёсць і прыкры, засмучальны момант: часопіс выпускаюць толькі на рускай мове. Чаму б не зрабіць варыянт-дубль на беларускай мове: упэўнены, што тыраж быў бы не меншы.

Н. НАВУМАЎ



Віктар ЯРАЦ



# ХРЫШЧОНЫЯ ГЛЫБІНІ

•

*У шырокіх кляноў*
*і маўчанне шырокае.*
*Па ствалах, па галінах разліта яно*
*глыбіні абмялелай*
*прыціхлымі сокамі.*
*А карэнні шукаюць крынічнае дно.*

*Ні пра што не пытае лістота,*
*працятая,*
*нібы токам, паглядам —*
*пералётным*
*святлом —*
*дзікай птушкі,*
*якая шурпатай не кратае*
*перасохлай кары ні хвастом,*
*ні крылом.*

*Што вяшчуе той птах вечаровы*
*з аблокамі —*
*ці вядома каму ў гэты час на зямлі,*
*дзе ў шырокіх кляноў*
*і маўчанне шырокае,*
*дзе гнязда не знайсці*
*ў перагрэтым галлі?*

•

Ізяславу КАТЛЯРОВУ

*Ледзьве ліст страпянецца сцямнелы,*
*толькі зорка ледзь чутна міргне —*
*неспакоем асветліцца цені*
*ад святла ў непагаслым акне.*

*Ноч, як бежанка, ходзіць ля вокан,*
*зазіраючы ў кожнае з іх*
*запытальна-дапытлівым вокам,*
*і трывожна напружвае слых.*

*І ля трасы бяссоннай, ля сцежкі*
*да світання шукае каго*
*беспрытульніца ціхая, пешкі*
*ідучы на далёкі агонь?*

*І пра што між стваловў*
*стромкіх сосен*
*і прымоўклых дамоў гарадскіх*
*ападзе павуцінкай у восень*
*ці пачуты хоць некім уздых?*

## ЗДАЛЁКУ

*Дзе лешч гуляў*
*на перакатах-плёсах —*
*ляцелі пырскі,*
*быццам матылі.*
*А промні загаралі на пакосах.*
*А ў перакур касцы*
*з ракі пілі.*

*Як ведаў чмель,*
*дзе сок знайсці салодкі,*
*так ведала рака пра шлях, якім*
*сплылі за небасхіл*
*плыты і лодкі,*
*кастроў начлежных*
*незваротны дым.*

*Аблокамі хрышчоныя глыбіні,*
*надрэчнай сцежкі*
*абамлелы дух*
*там цікавалі,*
*як у млоснай сіні*
*драпежны птах*
*рабіў павольны круг.*

*...Пасля на нейкай станцыі*
*ў спякоту*
*лугі прыпомніш,*
*дзе цану спазнаў*
*і мазалю пякучаму,*
*і поту,*
*і ветру-свежаку*
*між спелых траў.*

*Гукнуць чмялі*
*турботліва здалёку,*
*хлапчук, адлюстраваны*
*ў конскім воку.*
*Пытанне даляціць*
*з далечыні:*
*— Каго ж драпежнік*
*сочыць з вышыні?*

•

*Асакой сухой —*
*сухія словы.*
*Кружыцца запозенены лісток:*
*Развітальна загрукочуць колы:*
*— Да сустрэчы,*
*ціхі гарадок.*
*Позірк твой на восень непадобны.*
*Над касой,*
*адкінутай набок,*
*над пероном ранішнім халодным*
*кружыцца,*
*нібы пяро, лісток...*
*Блізкай рэчкі подых —*
*як зімовы.*
*Веснавы карэнням*
*сніцца сок.*
*Ростані вакзальныя*
*замовы.*
*Запытальна кружыцца*
*лісток.*

## СНЕГІРЫ

Казіміру КАМЕЙШУ

*Як дзень згасаў,*
*яны адкуль падвечар*
*анёламі барвовымі зары*
*зляталіся чародкамі аб нечым*
*маўчаць у сад заснежаны стары?*

*Карціць пакратаць*
*хлапчуку рукою*
*агеньчыкі,*
*пакуль не лёг яшчэ*
*глыбокі змрок,*
*глыбей снягоў спакою;*
*не звесці з тых агеньчыкаў*
*вачэй.*

*Бяжыць на іх святло*
*жывое з хаты —*
*у гурбах грузнеш.*
*Вось яны — бяры,*
*лаві ў далоні*
*дар нябёс крылаты.*
*З-пад самых рук*
*знікаюць снегіры...*

*У далячынях у якіх сягоння*
*пасланнікі крамянае зары?*
*Маўчыць,*
*маўчыць за вокнамі сутонне.*
*Адкажа хто:*
*— Дзе ж зніклі снегіры?*

*Чаму, зіма, нібы з даспелай гронкі —*
*ярчэй жарын —*
*не меціш дол нямы*
*тут, дзе плывуць падвечар*
*над пасёлкам*
*прапахлыя жывіцаю дымы?*

*Нібы асірацеў:*
*снег не асвецяць*
*агеньчыкі маленства дзіўных дзён.*
*Пагляд шукае снегіроў на свеце —*
*а толькі аніводзін не відзён.*

•

*Вераб'іных спрэчак стыне пух*
*на галінах вербаў і акацый.*
*Летняе зары*
*стамлёны дух —*
*за агнямі бакенаў*
*і станцый.*

*Хутка браццца маразам. Ну што ж,*
*гэта ўжо было,*
*было, канечне,*
*тут, дзе стынуць*
*Іпуць, Прыпяць, Сож,*
*тут, дзе лёд акрэплы*
*сніцца пешні.*

*Ад чаго ж у позірках яшчэ*
*столькі цеплыні,*
*якой і ўвосень*
*не журбой расстайнай апячэ —*
*прагаю сустрэч,*
*што ў сэрцы носім?*

## АДНОЙЧЫ

*Гук далёкі ў вечаровай стыні*
*цягніка (у ноч бяжыць вясёлы),*
*развітальны покліч жураўліны*
*(сеецца на сцішаныя сёлы),*
*шэпт-прызнанне ля агню каліны,*
*позірк-сінь пад гронкаю рабіны*
*забяру з сабой і ўсім пакіну —*
*так, як продкі некалі рабілі.*

## ХЛЕБ ВЯЗУЦЬ

*Ходзіць у пасёлак аўталаўка*
*раз на тыдзень:*
*возіць свежы хлеб.*
*Дзед кульгавы*
*і такая ж бабка*
*тут раскажуць і пра серп,*
*і цэп.*
*Век прыносіў*
*радасці і гора,*
*каравай і крошкі*
*сухароў.*
*Хлеб вязуць.*
*Знаёмы гук матора*
*шчодры.*
*І не трэба горкіх слоў.*



Фотаэцюд Ігара ГОРСКАГА

# АБРАЗКІ

Леанід КАЛОДЗЕЖНЫ



## СПОВЕДЗЬ

Млявы залацісты адвячорак. З расчыненых фортак, з разнасцежаных вокнаў далятае музыка. Паўсюль галасы, смех, дзіцячы грай.

Пешчуся на балконе, адпачываю душой. Паверхам ніжэй і правей парэнчу абшчапераваюць вялізныя, у набухлых фіялетавых вузлах, рукі, а над імі нерухоміць лысая, ад вуха да вуха апавітая рэдзенькай пасмачкай даўніх рудых валасоў, галава. Гэта — Андрэевіч, высокі, па-старэчы гламаздаваты мужчына. Так цэлымі гадзінамі сусед, варта пацікавацца за ім, адрачона глядзіць удалячынь, дранцвее ў поўнай адзіноце, у незямным забыцці. Памятаю яго такім, колькі жыву тут. Хто ён, адкуль, якое ў чалавека прозвішча, імя, апроч імя па бацьку, — людзі не ведаюць. Ні з кім у доме ні ў будні, ні ў святы пустэльнік не таварышуе, ні да каго не патыкаецца. Тады-сяды, калі я незнарок выдаю сваю прысутнасць, сусед тузгаецца, ускочвае ўгору мутныя вочы, вітаецца, кідае пару слоў і, бы рак у пячору, задам сунецца ў пройму балконных дзвярэй.

Вось і цяпер, ледзь рыпаю зэдлікам, Андрэевіч пудзіцца, мігае бялкамі, перасмыкае, плямкае сінімі вуснамі, здароўкаецца, хваліць надвор'е і нечакана нямее, але праз момант зноў азываецца:

— Можа б, вы спусціліся і зазірнулі ў мой бярлог?

— З прыемнасцю.

Я ўстаю.

"Дзіва! — лякае мяне. — На ліха спатрэбіўся яму?"

Страчае Андрэевіч пачціва. Далікатна падтрымліваючы пад локаць, папіхае да абцягнутага скурай мяккага крэсла, усаджвае, а сам у нерашучасці, пэўна, губляецца, з чаго пачынаць гаману, замірае ды хутка схамянаецца і раптоўна прапаноўвае:

— Давайце вып'ем. Не супраць?

— Не. Давайце.

Не марудзячы, ён дыбае да старасвецкай, чорнага моранага дрэва, камоды, дастае толькі-толькі распытаную бутэльку гарэлкі, чаркі, з кухні прыносіць парэзаную ліверку, хлеб.

Маўкліва чокаемся, не манернічаючы, бліскаем донцамі пасудкаў. Не кранаючыся да закускі, гаспадар гэтак жа бязмоўна закурвае рэдкую ў наш час папяросу "Беламор-канал", прагавіта цмыгае.

— Непрыемнасці ў вас? — праяўляю ўвагу.

— Цяжка мне, — пад клятчастай сарочкай узнімаюцца і ападаюць Андрэевічавы грудзі. — Скора, чую, паміраць, а як? Грэшнік я! Кат! Забойца!

— Жыцця каго пазбавілі?! — прабягае па маім целе дрыготка.

— Людзей расстрэльваў... пачкамі.

— Калі?!

— Да вайны і пасля. Смяротныя прысуды ў выкананне прыводзіў. Верыў — ворагаў народа знішчаю. Аднак пазней паразумнеў. Чухнуўся. Утапіў у балоце свае ўзнагароды, кінуў родны горад, сям'ю, сяброў і сюды прыджгаў. Прыціхарыўся. Спадзяваўся — ачомаюся. Аж — не! Моташна і тут! Дзень і ноч ахвяры маячаць перада мной. Куды падзецца ад іх?!

Ліхаманкава калоцячыся, Андрэевіч усхопліваецца. Не ведаючы, што сказаць пакутніку, чым прапашчага суцешыць, мімвольна ўздрэнчваюцца і я.

— Парадзьце, мілы, дзе знайсці супакаенне?! — ляскае ён пратэзамі зубоў. — Дзе?!

## КАРАЛІ

Успомніла пра іх Вулляна, калі Света і яе месяц таму абвешчаны муж з цяжкімі сумкамі, напакаванымі ўсякай усячынай, памкнуліся ад'язджаць.

— Стойце, міленькія! — запыніла яна. — Хвілінку!

— Познімся, бабуль, — запратэставала ўнучка. — Бывай!

— Паспееце. Не гарыць.

— Спяшаемся дужа. Справы.

— У мяне, ясачка, падарунак ё для цябе.

— Які?! — умомант заіскрыліся Светчыны падмаляваныя вочкі.

— Зараз пакажу. Мне ён ад маці маёй дастаўся. Дачок я не мела. Бог не паслаў. Адных сынкоў бусел прыносіў. Дык спецыяльна табе ў спадчыну берагла. Чакала, пакуль замуж выйдзеш. Час якраз вось і наступіў. То аддам.

Старая зашустрыла да пашарпанага, падрапанага многімі пакаленнямі катоў, якія гадамі гарталі, вастрылі аб прыдатныя брыжы кіпцюры, куфра, адкінула паўкруглае века, звесіла ўнутр галаву, пакорпалася між стасоў бялізны, абрусаў ды ручнікоў, выхапіла са дна ёмістую маляўнічую бляшанку з-пад ледзянцоў, паднесла ўнучцы, парэпаным пазногцем скалупнула накрыўку, выняла адмысловыя, даўняй работы, драўляныя, бурштыннага водцену, тонка, пацерка да пацеркі: большай, меншай, зноў большай, адшліфаваныя каралі.

— Любуйся!

— Баб, — атарапела дзяўчына, — а што гэта?

— Пацешся.

— Было б чым.

— А няма?

— Во здзівіла. Пфе!

— Прымерай, прымерай спярша. Не круці піпіркай. На, — сілком начапіла Вулляна пераемніцы на шыю ажурны ланцуг. — Добранька паглядзі. А я нікну ў скляпок, гурочкі тваё дастану.

Не паспела яна выкуліцца за парог, Света хітнулася перад насценным люстрам і грэбліва сарвала з сябе бабчына багацце, шпурнула яго на кушэтку, чмыхнула:

— Сял-ло!

Сярод вуліцы жанчына пацалавала ўнучку ў пухленькія шчочкі-булачкі, маладзенькаму ейнаму сужыцелю працягнула сухую далоньку.

— Не забывайце ж, галубкі!

Стаяла і махала рукой, пакуль машына не знікла за воблакам шэрага пылу.

У апусцелую хату, як бывае заўсёды пасля расстання з роднымі, вярнулася сцішанай, прыгнечанай. Бязмэтна тунькнулася туды, сюды. Нечакана змеціла расклізаныя ўпрыгожванні і войкнула:

— Забылася, не ўзяла Святланка каралі! Хоць бяжы даганяй шылахвостку. Як жа любенькая ўмудрылася так?

## АНЮЦІНЫ ДЗЕЦІ

— Куды ж вы? — паспрабавала старая затрымаць гасцей. — Вось-вось прыехалі, ледзь з-за стала ўсталі і ў работу ўпрагацца?! Нягожа. Адпачылі б.

— Паспеем, — бліснуў сын белымі зубамі.

— Не змарыліся, мама, — супакоіла дачка.

Бы на пажар ляцелі, яны пераапрануліся і рушылі ў пазахлеўе: Толя з касой пляжыць для казы Розкі на зіму канюшыну, а Зоя са слоікам лапашыць з бульбоўніка каларадскіх жукоў.

"Малайцы, дзеткі! — усцешыла Анюту. — Не пакінуць у бядзе. Не дадуць увярэдзіцца. Дапамогуць па гаспадарцы".

Толькі напісала яна ім лісты — захварэла, адразу ж абодва прыкацілі.

"Любяць мяне! — агуляла ўсмешка асмужаны сонцам Анюцін твар. — Шануюць і берагуць!"

Дзе і немач падзелася, не зўважаючы задышкі, не звяртаючы ўвагі на вострае калаццё пад ключыцай, жанчына пажвавела, замітусілася, заснавала. Перш-наперш збегала ў грады, нарвала пук радыскі, вышмаргнула два карчы цыбулі, нашчыкала кропу (дужа ж пасля чаркі Толя ахвочы да салату) і аднесла ўсё. Потым вярнулася назад, падмацала маладзенькай, драпні пазногцем — шкурка злазіць, адрэты, саўганула ў фартух з дзесятак ранніх пухірыстых агурочкаў і трушком падрабязіла прэч. У сенцах старанна перамыла гародніну, бульбу і, ног пад сабой не адчуваючы, прытанцоўваючы, узялася гатаваць вячэру. Зашчыравала ля судніка, заўвіхалася перад газавай плітой. Заляскала талеркамі, задзынкала лыжкамі, відэльцамі.

Клікаць дзяцей паклымала ўжо апошнім промнем.

"Замардаваліся, відно, гаротнікі!" — падумала.

Галасы іх улавіла яшчэ з-за вугла пуні і тут жа разгублена запынілася: Толя і Зоя не гаварылі, нават не сварыліся, а лаяліся.

— Што?! Табе — хата, а сястрысіраціне — свінушнік трухлявы?! — крычала дачка.

— Я рамантаваў яе, дах перакрываў, — басіў сын. — Лесаматэрыял, шыфер за ўласныя мазольныя купляў.

— Ладна, грабі, падавіся сваёй хатай! — абурылася Зоя. — Тады я сабе ў прыдачу швейную машыну забяру!

— Мая жонка не горшая за цябе швачка. Ёй таксама спатрэбіцца "Зінгер".

— Скулу тваёй мымры! Не ўпушчу!

— Казу вунь забрытвай. Хочаш, даі Розку, хочаш, прадавай.

— Каб ты здох з Розкай! Сам казёл, хапай падлу барадатую!

"Гэта ж саколікі бацькаўшчыну дзеляць! — дайшло да Анюцінай свядомасці. — Ці не здурнелі радзіменькія! Я ж пакуль жывая!"

Імгненна Анюце затуманіла вочы. Яна хіснулася, коратка войкнула, пацягнулася рукой да грудзей, прысланілася спіной да сцяны пахіленай будыніны і спакваля,



Аўталітаграфія Нэлі ШЧАСНАЙ

# ДНІ ТЭАТРА ШВЕЦЫІ

***Тэатральная культура не стаіць на месцы. Яна рухаецца наперад, і як вынік атрымліваюцца новыя цікавыя тэатральныя праекты. Такім жа можна назваць і сумесны беларуска-шведскі тэатральны праект "Дні тэатра Швецыі ў Купалаўскім", які ажыццявіўся 3—5 кастрычніка на Малой сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.***

Праект такога кшталту ў Купалаўскім тэатры ладзіцца ўпершыню. Дні тэатра Швецыі ў Купалаўскім — гэта першы крок, каб даведацца чым жа жыве тэатр Швецыі сёння. З гэтай нагоды на Малой сцэне адбылася прэм'ера спектакля «Барух-Эмануэль» драматурга Дзмітрыя Плаксы, беларуса па пахожданні. Пастаноўку ажыццявіла маладая шведская рэжысёрка Наталі Рынглер, якая запрасіла ў свой спектакль маладых купалаўскіх акцёраў Аляксандра Малчанава, Рамана Падаляку, Паўла Яскевіча. Рэжысёрка вызначыла жанр сцэнічнага твора як філасофскі «craft»... «маналог» на тры асобы. (Пазней мы прапануем водгук на гэты спектакль.) Аднак, як зазначыў сам аўтар Дзмітрый Плакс у размове з журналістамі, п'еса была напісана даволі механічна: яна рабілася па заказе, спецыяльна для шведскага Каралеўскага тэатра.

4 і 5 кастрычніка на малой сцэне прайшлі і чытанні ўрыўкаў з п'ес іншых шведскіх аўтараў. Адбылося першае знаёмства з такімі імёнамі як Катарына Фростэнсан (п'еса «Крыштальная вуліца»), Астрыд Тротцыг ( п'еса «Першая восень»). У гэты ж дзень ладзілася публічная гутарка з Якабам Хірдвалем — драматургам, загадчыкам літаратурнай часткі Каралеўскага драматычнага тэатра ў Стакгольме. Мяне, напрыклад, зацікавілі ўражанні шведскага драматурга ад нашага тэатра. Якаба Хірдваля (на жаль, у яго было вельмі мала часу, каб пазнаёміцца з тэатрам) вельмі ўразіла ігра нашых акцёраў. Па яго словах, у Беларусі акцёры іграюць больш рэалістычна. І ўвогуле спадар Хірдваль задаволены спектаклем і праектам. Гаварылася таксама і пра супрацоўніцтва тэатра Швецыі і Беларусі. У нядзелю (5 кастрычніка) чыталася п'еса Сціга Ларсана «Вяртанне зняволенага» ў прысутнасці самага аўтара. Адзначым, што ўсе п'есы былі перакладзены на беларускую мову Дзмітрыем Плаксам. І чыталі іх нашыя акцёры: заслужаны артыст РБ Уладзімір Рагаўцоў, Алена Іваннікава, Вячаслаў Паўлюць, Тамара Міронава, Вольга Фадзеева.

А завяршыў Дні тэатра Швецыі ў Купалаўскім майстар-клас шведскага кампазітара Дрора Файлера — аўтара музыкі да спектакля «Барух-Эмануэль». Усе, хто цікавіцца сучаснай шведскай музыкай, былі ў той дзень тут. Тры дні прайшлі як адно імгненне. Галоўныя іх здабыткі: новы спектакль у рэпертуары Купалаўскага тэатра, знаёмства са шведскай культурай і шмат добрых эмоцый і ўражанняў.

Зміцер КАРМАЗІН

КАНТАКТЫ

***Сёлета ўжо ў другі раз спанатраная мінская публіка, якая складалася не толькі з аматараў, але і з прафесійных музыкантаў і крытыкаў, мела магчымасць слухаць класіку ў выкананні Сімфанічнага аркестра Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам вядомага швейцарскага дырыжора Райнера ХЕЛЬДА. (Пра што, дарэчы, "ЛіМ" паведамляў.)***

бой. Гэты філасофскі змест натхняў выканаўцаў, якія, што аднагалосна адзначылі маэстра Райнер Хельд і мастацкі кіраўнік Аб'яднання музычных калектываў тэлерадыёкампаніі Аляксей Равуцкі, дасягнулі значных поспехаў менавіта як канцэртны аркестр.

"На сцэне аркестр выпраменьваў тую энергію, якую я заўсёды імкнуўся адчуць у час працы над сімфанічным творам", — сказаў Райнер Хельд. Гэты даволі малады, але ўжо вядомы ў краінах Захаду дырыжор кіруе Камерным хорам горадаАаргау (Швейцарыя), а таксама выкладае ў музычным каледжы. Маэстра атрымаў адукацыю ва Універсітэце Цюрыха і ў Музычнай акадэміі Люцэрна, стажыраваўся ў такіх цэнтрах сусветнай музычнай культуры, як Зальцбург і Токіо.



## СА ШВЕЙЦАРЫІ — НА БЕЛАРУСЬ

***28 верасня ў Канцэртнай зале Беларускай акадэміі музыкі гучалі творы Людвіга ван Бетховена.***

Сімфанічны аркестр, які за два дні да гэтага адкрыў новы музычны сезон Магілёўскай абласной філармоніі, яскрава і свабодна выконваў у Мінску уверцюру Бетховена "Эгмант", — знакаміты твор, прасякнуты ідэяй волі і справядлівасці. У першым аддзяленні праграмы таксама прагучаў Скрыпічны канцэрт Макса Бруха, у якім выканала сольную партыю лаўрэат міжнародных конкурсаў, 17-гадовая вучаніца Рэспубліканскага каледжа пры БАМ Ксенія Бельцюкова. Другое аддзяленне канцэрта было цалкам прысвечана музыцы Бетховена, 175-годдзе з дня смерці якога музычны свет адзначыў летась. Прагучала Сімфонія № 7 — твор, у які вялікі нямецкі кампазітар уклаў ідэю барацьбы чалавека з самім са-

Канцэрты ў Магілёве і ў Мінску сталіся працягам творчага супрацоўніцтва аркестра тэлерадыёкампаніі са швейцарскімі артыстамі, якое пачалося сёлета на пачатку года. Наогул жа, у гэтым годзе творчае жыццё Сімфанічнага аркестра насычанае падзеямі. У межах беларуска-швейцарскага праекта 18 студзеня аркестр даў вялікі канцэрт, у якім саправала таленавітая швейцарская піяністка і вядомы дзеяч у свеце музычнага мастацтва Эмі Хенц-Д'еман, а дырыжыраваў маэстра Райнер Хельд. Рэпертуар студзеньскага канцэрта стаўся ўдалым спалучэннем класічнай і сучаснай сімфанічнай музыкі, дзе бліскучая уверцюра "Карыялан" і імклівая Сімфонія № 8 Людвіга ван Бетховена прагучалі як арганічнае атачэнне твораў швейцарскіх кампазітараў XX ст. Эрнста Відмера і Артура Анегера. А ў лютым наш аркестр з гэтай жа праграмай удзельнічаў у святкаванні 200-годдзя швейцарскага кантона Ааргау, даўшы тры канцэрты.

Наступныя сумесныя выступленні аркестра Белтэлерадыё і швейцарскага дырыжора плануюцца на люты 2004 года. Праграма канцэртаў канчаткова не зацверджаная, але ўжо цяпер вядома, што ўвазе аматараў высокага мастацтва будуць прадстаўлены творы Р. Вагнера і К. Сен-Санса. Што ж да далейшага супрацоўніцтва, то на 2005 год замоўлены чарговыя гастролі Сімфанічнага аркестра з Беларусі ў Швейцарыі.

Маэстра Хельд патрабуе ад нашага аркестра амаль што швейцарскай дакладнасці. Але ж беларускія музыканты выдатна спраўляюцца з сваёй задачай — задачай перанесці класічны сімфанічны твор у сучасны кантэкст, знайсці ў ім акцэнты, дзякуючы якім ён загучыць актуальна для сённяшняй беларускай публікі.

Алена БЫСТРОВА

*НА ЗДЫМКУ: маэстра Р.ХЕЛЬД, салістка К. БЕЛЬЦЮКОВА і — аркестр.*
*ФОТА АЎТАРА*



разумее, як "у наш час складана мець блізкіх", як складана абараніць іх ад жыццёвых неспадзяванак і сябе пры гэтым не пакрыўдзіць. Але за рэспектабельным фасадам сямейнай вілы хаваецца такі заблытаны клубок карыслівага разліку, рэўнасці, шантажу і сямейных тайн, што разблытваць яго гледачу прыйдзецца ўсе дзве з паловай гадзіны, што доўжыцца спектакль. А пацягнуў за гэтую нітачку падзей нехта Жак Лафантэн, запрошаны ў дом сябра дачкі, і як высвятляецца, той самы былы каханы Эльзы, "чалавек з іншага свету". Ён імкнецца вярнуць былое каханне, вярнуць не толькі Эльзу з дачкой, але і самога сябе. Праўду кажуць — у кожнага ў душы ёсць свая шафа са шкілетам. А калі яна яшчэ і не адна — вось тут і пачынаецца сапраўдны дэтэктыў з забойствамі, падкідышамі, высвятленнем бацькоўства і завяшчаннем дзядулі. Тут ужо галоўнае — не пужацца рэвальверных стрэлаў з навальнічным громам і паспяваць здзіўляцца чарговай тайне.

"Дэтэктыў плюс..." — так вызначалі жанр гэтага спектакля яго стваральнікі. Здаецца, плюса тут атрымалася больш, чым дэтэктыва, і гэта парадавала. На першым плане ўсё ж засталіся не шантаж са стралянінай, а псіхалогія, аналіз чалавечых адносін. Аўтар імкнецца разабрацца — чаму ж неблагія і дарагія адно аднаму людзі так упарта робяць балюча сваім блізкім. Хто вінаваты, — пытаюцца героі адзін за адным. І рэха кожны раз адказвае адное і тое ж. Ты...

Юлія ПАЛАЧАНІНА

*НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакля.*
*ФОТА К. ДРОБАВА*

МУЗЫКА

# ГОЛАС-ДЫЯМЕНТ

***У сапраўднае святаператварыўся канцэрт камернай спявачкі, салісткі Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ніны ЦІШКО ў Мінскім яўрэйскім абшчынным доме. Праграма выступлення была цікавая, living разнабаковая: творы кампазітараў-класікаў, рускіх, савецкіх, еўрапейскіх, беларускіх аўтараў, беларускія народныя песні.***



На адным подыху былі выкананы вядомыя творы "Ave Maria" Д. Качыні, "Чорны вецер" П. Сарасатэ, "Кахаю цябе" Э. Грыга... Вялікі, прыгожы, яркі голас цудоўнага тэмбру пакарыў сваёй мяккасцю, выразнасцю. Колькі цеплыні, шчырасці было ў гэтых словах! А як ажывіліся пажылыя слухачы, калі прагучаў "Выпадковы вальс" М. Фрадкіна, нагадаўшы некаторым пра іх ваенную маладосць. Такі ж настальгічны настрой панаваў у зале, калі з натхненнем выконвалася вядомая песня М. Блантэра "Чарнавокая казачка".

Не меншы поспех мела ў публікі выкананне папулярных старадаўніх рамансаў, "Хабанера" з оперы Ж. Бізэ "Кармэн". Усё, што выконвала гэтая абаяльная, маладжавая ўладальніца цудоўнага меццо-сапрана, прагучала вельмі ярка, таленавіта. Яе поспех падзяліла канцэртмайстар Таццяна Вішнякова. А колькі такіх канцэртаў было і яшчэ будзе ў Ніны Цішко! Прынамсі, яна ўжо рыхтуецца да выступлення ў сталічнай Зале камернай музыкі 28-га лістапада, падчас "Беларускай музычнай восені".

Як няпроста склаўся яе лёс! Ураджэнка мястэчка Паставы, яна рана пачала працаваць. Бацька вярнуўся з Вялікай Айчыннай інвалідам, але працаваў — печніком, і дачка яму дапамагала. З захапленнем слухала Ніна, як ён сваім прыгожым тэнарам выконваў рускую народную песню "Степь да степь кругом". Яна таксама любіла спяваць, удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці.

Неяк Ніна ўдзельнічала ў канцэрце самадзейных артыстаў — спявала "Хороши вечера на Оби". Менавіта тады яна пазнаёмілася з салдатам Вячаславам Хаўкіным, які потым стаў яе мужам. (У апошні час ён, вядомы скрыпач, працаваў педагогам Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі і Беларускай акадэміі музыкі. Больш як трыццаць гадоў пражылі яны з Нінай душа ў душу. Тры гады ўжо, як Вячаслава не стала. Іх дзеці таксама музыканты: дачка Марына — піяністка, сын Аляксандр — студэнт Акадэміі музыкі па класе скрыпкі.)

А ў той вечар Ніна пачула шмат добрых слоў пра свой голас, гаварылі, што ён з цудоўнымі абертонамі. Адзін з вядучых спецыялістаў па вакале з сталіцы Літвы, дзе яны тады жылі, сказаў, што Ніна можа стаць такой жа выдатнай камернай спявачкай, як Зара Далуханава. І Ніна стала студэнткай падрыхтоўчага аддзялення Віленскай кансерваторыі, праз нейкі час паехала з мужам у Баку, дзе тады жылі яго бацькі.

Пасля яе паспяховага выступлення на Усесаюзным конкурсе вакалістаў (1972 г.) Ніну Цішко запрасілі працаваць у Мінску. І вось 31 год яна тут жыве. Чвэрць стагоддзя працуе ў філармоніі. Была салісткай Белтэлерадыё, плённа працавала са знаным канцэртмайстрам Тамарай Міянсаравай. Некалі дырыжор Яраслаў Вашчак запрасіў Ніну Цішко ўзяць удзел у адным з оперных спектакляў, але яна, на жаль, не скарыстала такую магчымасць.

Сёння ў рэпертуары спявачкі каля 400 твораў, і ўсе яны ўлюбёныя. Акрамя камернага рэпертуару, фальклору, песень, выконвае арыі з опер, спявае ў рэквіеме. Таленавітая артыстка гастралявала ў Германіі, Расіі, Францыі, Швецыі. "Беларуская прымадонна пакарыла нас", — пісалі шведскія газеты. Яна зачароўвае слухачоў і ў сябе на радзіме. Шкада толькі, што ў роднай Беларусі пачуеш яе рэдка...

Вера КРОЗ






**Вядомы крытык і журналіст выказаў думку, што творы Нінель ШЧАСНАЙ — "на аматара". Падчас гэтай размовы я прысутнічала ў майстэрні і бачыла, як Нінель Іванаўна насцярожылася, нібы хмурынка прабегла па яе твары, і яна перапытала: які сэнс крытык укладвае ў гэтыя словы? Але ж, калі і патлумачыў, і камплімент зрабіў як творцы — я адчувала: мастачка не пагадзілася з ім. Быць не можа, што яе творы не ўсім зразумелыя і даступныя!**
**Яна шукала свой шлях у мастацтве, выпрацоўвала адметны творчы почырк, эксперыментавала з матэрыяламі і тэхнікамі, услаўляла жыццё ва ўсіх яго праявах.**
**Чым кіравалася, каб не збіцца са шляху, не ступіць на сцежку, што вядзе да разбурэння, не патрапіць у пастку ілюзіі творчасці? Яна — жанчына і творца! — выбрала самага дасканалага і праўдзівага дарадчыка – сэрца, поўнае любові.**
**З ім не заблукаеш і не зачарсцвееш — як да прыгажосці, так і да болю, з ім не забранзавееш і ў славе. А творы — гэты яе жыццяпіс, вобразы роднай Беларусі, аблічча дарагіх людзей, песня хараству навакольнага свету, гімн жанчыне. Яе карціны — шчырыя, сардэчныя, паэтычныя, няўжо сапраўды некаму незразумелыя?**






# ДОЛЯ ШЧАСНАЯ І НЯШЧАСНАЯ НІНЕЛЬ ШЧАСНАЙ



## АЎТАПАРТРЭТ

ЖЫВАПІСЕЦ. ГРАФІК. МАНУМЕНТАЛІСТ... Гэтак скупа вызначаюць энцыклапедыі асобу выбітной беларускай мастачкі, самабытнага майстра, цудоўнай жанчыны, чалавека прыгожай і шчодрай душы, яркага і светлага таленту -- асобу Нінель Іванаўны Шчаснай. Сама ж яна на аўтапартрэце то выглядвае, як чараўніца, з папарацькветкі, то атаясамлівае сябе з трапяткой, пяшчотнай сінічкай, яркім снегірком-агеньчыкам у замерзлай зімовай прасторы, летуценнай і шчаслівай снежнай бабай -- бо злеплена рукамі дачкі і ўнучкі. Яна і муза, і адзінокая, і берагіня -- на аднайменных карцінах. Але ж тры партрэты -- "Аўтапартрэт з майго абутку", "Пясочны гадзіннік" і "Вясёлка мацярынства", на маю думку, найбольш яркія самавызначэнні мастачкі.

Магчыма, нехта заспрачаецца, што "Вясёлка мацярынства" не належыць да аўтапартрэтаў. Але ж каго тады, як не сябе, пісала Шчасная на гэтай карціне? Нарадзілася яе ненаглядачка-Ладачка, і для мастачкі адкрыўся новы, ні з чым не параўнальны свет пачуццяў. Карціна была напісана ў 1966 годзе, у час, калі ў мастацтве панаваў суровы стыль, і збянтэжыла многіх мастакоў і знаўцаў мастацтва. Гэта была мадонна, і яна стала выклікам, пратэстам усім папярэднікам, хто пісаў Божую Маці з дзіцем.

***— Я вучылася ў акадэміі, я ведала амаль усіх мадоннаў, створаных мастакамі, — расказвае Нэла Іванаўна. — Іх пісалі мужчыны. І толькі там, дзе мастачка малюе сябе з дзіцяткам, я адчувала: тут ёсць мацярынства. У нас бытаваў "зямлісты" жывапіс, лічылася, што па-іншаму пісаць нельга. Мне нават прыгразілі, што не будуць выстаўляць. Але ж я вырашыла: "У мужчын я павучылася 12 гадоў — дастаткова". І сваю "Вясёлку...", мадонну, я ўжо пісала пачуццямі, а не так, як мяне вучылі. Мною кіравала мацярынства. Многія мастакі не ведалі, як рэагаваць на карціну, можна яе прымаць або не? "Я зрабіў бы іначай..." — быў іхні аднагалосны водгук. Я шчыра пагаджалася: вядома, вы ж не жанчына! Я іх, напэўна, раззлавала гэтай карцінай. І да гэтага часу перакананая: мужчынам мадонну лепш не пісаць! Яны не ведаюць, што такое мацярынскія пачуцці. Мадонна ў іх — як патэнцыяльная каханка. Гэтага пазбеглі толькі тыя мастакі, якія заглушылі покліч плоці, жылі ў святасці, пісалі па царкоўных канонах. Маглі з боскімі пачуццямі адносіцца да мадонны, і таму ім удавалася стварыць яе духоўны вобраз. А ўсе ж астатнія, у тым ліку і Рафаэль, пісалі ў якасці мадонны сваіх жонак, каханак, натуршчыц...***

Дарэчы, купляць работы Нінель Шчаснай музеі пачалі з "Вясёлкі мацярынства". Да гэтага лічылася, што мастачка занадта маладая, эксперыментуе, калі ўсё ясна: толькі сацрэалізм -- мастацтва. Набыццю карціны папярэднічала цікавая гісторыя.

***— Здарылася, адна японка ўбачыла маю працу на выстаўцы і сказала: "Няхай яна прынясе мне свае карціны". Усё, што я прынесла, японка забрала. І калі ўжо збіралася вывозіць карціны, міністр культуры звярнуўся да дырэктара Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі Алены Аладавай: паглядзіце, мо што адбераце ў музей, па-мойму, вывозяць за мяжу добрыя работы. І Аладава адабрала "Вясёлку мацярынства". Для японкі я за тыдзень напісала копію.***

Аўтапартрэт "Пясочны гадзіннік" напісаны нядаўна, гады тры таму, але ён надзвычай важны для творчасці Шчаснай. У ім мастачка ўвасобіла ідэю жанчыны на зямлі. Жанчына матэрыялізуе свет бесцялесны, праз яе праламляюцца час і космас. А замест пясчынак сыплюцца палавінкі яблыкаў, у іх можна разгледзець нават твары, -- яны ляцяць у няспынным патоку да зямлі, каб кожнай адшукаць сваю, супасці з ёй у адзінае цэлае.

Не сакрэт, цяжка творчай жанчыне быць шчаслівай. Але ж і няпроста жанчыне быць творцай.

***— Жанчыне стаць мастаком неверагодна цяжка. Наогул, каб стаць упоравень з мужчынамі ў любой справе, трэба быць на галаву вышэй за іх. А жанчыне, акрамя творчай працы, трэба і дзяцей, і мужа, і дом дагледзець...***

Руплівіца, яна стварыла сотні жывапісных карцін, шмат дэкаратыўна-прыкладных твораў, афарміла больш за 30 кніг, працавала ў станковай графіцы, рабіла вітражы і мастацкі посуд. За шэраг работ на чэхаўскую тэматыку, за плённае творчае супрацоўніцтва барысаўскія гутнікі падарылі Нэлі Іванаўне крыштальны пантофлік — як Папялушцы. Ён сімвалічна дапаўняе "Аўтапартрэт з майго абутку": на ім адпачываюць, напрацаваўшыся, рабочыя і далікатныя тэатральныя туфлікі. Яны сведчаць, што іх гаспадыня не цуралася ні жаночай, ні мужчынскай працы і пры гэтым была "каралевай на любым балі". Гнула метал, са шкла і агню стварала святланосныя вітражы, збівала рамы пад карціны, сама спраектавала і ўзвяла прыгожы дом, якому пазайздросцяць і прафесійныя будаўнікі. Ён знаходзіцца каля Вялікага Сяла, паблізу Мінска, дзе нарадзіўся бацька мастачкі і дзе цяпер магілы маці і бацькі. Сама ж Нэла Іванаўна з'явілася на свет у Полацку, гэты горад стаў "сталіцай яе лёсу".

## ГАНАРОВАЯ ПАЛАЧАНКА

"А мы вашай дачцэ галасаваннем прыдумалі імя: Нінель — Ленін наадварот", -- такімі словамі сустрэлі навучэнцы Полацкага педвучылішча свайго любімага настаўніка беларускай мовы і літаратуры Івана Сымонавіча Шчаснага, калі даведаліся, што ў яго нарадзілася першае дзіця. І хаця дома дзяўчынку называлі Нэлай, імя Нінель засталося ў метрыках і пашпарце на ўсё жыццё.

Полаччына — радзіма маці, Марыі Андрэееўны, якая паходзіла з роду шляхціцаў Заленскіх. Як і бацька, маці была настаўніцай. Пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта Іван Шчасны атрымаў накіраванне ў аспірантуру, але трэба было зарабляць на жыццё. У Полацкім музеі кнігадрукавання ёсць падручнікі і методыкі выкладання для пачатковай і сярэдняй школы І.С. і М.А. Шчасных. У пасляваенны час Іван Сымонавіч стаў кандыдатам педагагічных навук.

У невялікім горадзе асоба настаўніка роднай мовы Шчаснага прыцягвала ўвагу. Нэла Іванаўна расказвае:

***— У 37-ым на вуліцы бацьку нехта за спінаю сказаў: "Не азірайцеся! Але ж калі заўтра вы застанецеся, вас забяруць". Ён прыйшоў дахаты, забраў жонку і дзяцей і адразу ж на вакзал. Селі ў першы цягнік, які ішоў у гэты час, і такім чынам апынуліся на Смаленшчыне.***

У майстэрні ў стане нараджэння знаходзіцца вялікі твор — трыпціх, прысвечаны Еўфрасінні Полацкай. Вобраз апякункі зямлі беларускай неаднаразова ўзнікаў на палотнах Нэлы Іванаўны, да святой Еўфрасінні ў яе надзвычай трапяткія, і я сказала б, нават асабістыя адносіны. Між іншым, ільняны касцюм, пантофлікі -- скураныя, на шнуроўцы, а пасля і шапачка, падобная па форме да шлема, з'явіліся ў гардэробе мастачкі невыпадкова: касцюм нагадваў убор полацкіх князёўнаў. Праўда, у шапачкі было яшчэ адно прызначэнне: падкрэсліваць бровы, бо яны і вейкі былі "з'едзены" вітражамі, згаралі ў працэсе працы...

Некага "ўсе дарогі вядуць у Рым", Шчасную — у Полацк.

***— Я праехала па Полаччыне, пабывала ў многіх вёсках, і найперш там, дзе жыла мая прабабка Заленская. Мой дзед — яе старэйшы сын, прыгожы, высокі, пад два метры росту. У прабабкі было трое сыноў і трое дачок. На фотаздымках відаць маё падабенства з імі. А калі прыехала ў Зялёнкі (раней гэта мясціна называлася Заленкі), гляджу на людзей: усе сінявокія, светлавалосыя, падобна — усе мая радня! Бацька і мама таксама былі падобныя. Генетыкі даказалі, што муж і жонка за час працяглага сумеснага жыцця перадаюць адзін другому гены і таму робяцца падобнымі і знешне, і сваім духоўным светам. Мае бацькі пражылі доўгае, болей за паўстагоддзя, сямейнае жыццё. Лагічнае мысленне, уменне markznabakova бачыць свет, аналізаваць рэчаіснасць — гэта ў мяне ад бацькі. А вось эмацыянальнасць — ад мамы. Мастак без эмоцый — халодны, нецікавы людзям. Калі я пішу, я ўсміхаюся, часам плачу — такі напал эмоцый...***

Сёлетняй восенню Нэла Іванаўна завяршыла двухгадовую вандроўку з выстаўкай па малых гарадах Беларусі, як таго і належала чакаць, у родным Полацку. Палачане любяць сваю цудоўную мастачку. У Полацкай карціннай галерэі яе творы займаюць асобны пакой, а падчас свята беларускага пісьменства адкрылася персанальная выстаўка Шчаснай. Удзячныя землякі ўзнагародзілі Нэлу Іванаўну званнем "Ганаровы грамадзянін Полацка". І яна ганарыцца гэтым і шчыра рада.

## КАЛІ ЗОРКА СПУСКАЕЦЦА НА ЗЯМЛЮ...

...яе чакае лёс зямны. А многім з нас па-ранейшаму здаецца: вось у тых, хто прыгожы, таленавіты, знакаміты, і жыццё да неверагоднага шчаслівае, усё ў іх інакшай, па-зорнаму.

Першы клас Нэла закончыла ў 1941 годзе ў вёсцы Новы Двор Смаленскага раёна. І тут пачалася Вялікая Айчынная вайна. Бацька пайшоў на фронт, сям'я настаўнікаў Шчасных патрапіла ў эвакуацыю. Тры гады маці адна з малалетнімі дзецьмі выжывала на Тамбоўшчыне. Не было ні драбка цукру, ні каліва солі, а лебяда, жмых і працавітасць дапамагалі жыць, вучыцца, танцаваць і маляваць...

Пасля заканчэння вайны і дэмабілізацыі бацькі ў 1946 годзе Шчасныя прыехалі ў зруйнаваны Мінск. У 1949 годзе Нэла закончыла з пахвальным лістом сямігодку, па настойлівай парадзе мастака Сяргея Каткова паступіла ў Мінскае мастацкае вучылішча, далей працягнула вучобу ў Ленінградскай акадэміі мастацтваў (інстытут імя І.Рэпіна) на факультэце жывапісу. Тут сустрэла каханне, выйшла замуж за студэнта архітэктурнага факультэта Сяргея Неўмывакіна. Пасля акадэміі разам з мужам жыла і працавала ў Сярэдняй Азіі. У Душанбе засталіся яе роспісы, мазаікі, вітражы, якімі маладая мастачка аздобіла дом мадэляў, новыя будынкі магазінаў, а таксама кінатэатр "Электрон" у г. Нурэку. У 1965 годзе Нэла Іванаўна вярнулася ў Мінск.

Выдатніца, яна прывыкла заўсёды ўсё рабіць на "пяць з плюсам". Яна ўмела перамагаць. Але ж у асабістым жыцці ўдача ёй здрадзіла. Жыццё з першым мужам не склалася. А калі іхняй дачушцы Ладзе было тры гадкі, Неўмывакін пакінуў сям'ю. Лада Шчасная закончыла Мінскае мастацкае вучылішча, Беларускую акадэмію мастацтваў, член Саюза мастакоў Беларусі, старшы выкладчык БДУ культуры. Нэла Іванаўна дзеліцца навінамі пра справы дачкі. Вось новая карціна Лады Шчаснай, а гэты аўтапартрэт -- ранейшая праца, тут Лада першы раз усміхаецца пасля цяжкай хваробы і разрыву з мужам, якія абрынуліся на яе пасля нараджэння дачкі, Нікі. У перасоўнай выстаўцы па малых гарадах Беларусі прымала ўдзел і Лада — мастачкі Шчасныя, маці і дачка, дзве жанчыны-творцы былі разам.

Узіраюся ў партрэты родных для Нэлы Іванаўны мужчын: бацькі -- Івана Сымонавіча, першага мужа -- Сяргея Неўмывакіна, другога мужа — Сяргея Красікава. У гэтых партрэтах адказы на адвечнае "чаму ж так адбылося?", мастачка раскрыла характары, унутраны свет, духоўную сутнасць, драматызм лёсу кожнага з іх. У Шчаснай свой падыход да партрэта, не выкладзены ні ў якім з падручнікаў. Партрэт у яе — гісторыя чалавека. З другім мужам, Сяргеем Паўлавічам, разам ішлі па жыцці болей за 30 гадоў. Ён паэт, быў шчодры на вершы і кветкі. Нават цяпер дасылае лісты з вершамі, бо сардэчнаяповязь аказалася мацней за бытавыя абставіны, ва ўгоду якім мужчына на схіле веку можа пакінуць сваю музу.

А вось карціна "Мая сям'я": у сувоі святла і часу яны ўтрох -- Нэла Іванаўна, дачка Лада і ўнучка Ніка. Якія яны прыгожыя! Але ж няма на сямейным партрэце мужчын, нібыта вынішчаны вайною...

## "Я — АБСАЛЮТНЫ СТВАРАЛЬНІК"

Нэла Іванаўна падзяляе людзей на стваральнікаў і разбуральнікаў. Стваральнікі мастацтва -- тыя, хто не разбурае матэрыю і сілкуе душу, яны праз матэрыяльны свет могуць станоўча ўздзейнічаць на гледача.

***— Я — абсалютны стваральнік. Лічу, што душа чалавека знаходзіцца ў матэрыяльным целе, і сродкамі матэрыльнага свету я размаўляю з гледачом. На жаль, сёння некаторыя творцы сталі на шлях разбуральнікаў. І яшчэ ў мяне адзін боль — "унітазнае" мастацтва. Такі мастак падыходзіць да мальберта з думкай: мне трэба зарабіць 100 даляраў, я намалюю і прадам карціну, куплю харчоў... Я ж заўсёды працу мастака разумела так: калі ты пішаш карціну, то яна павінна быць асаблівай, у ёй будзе думка найцікавая, форма незвычайная, яна ўзбагаціць разуменне прыгожага. Мастацтва ўздымае жыццё зямное да нябесных вышынь. Я не займаюся бізнесам і на сваіх карцінах не зарабляю. У мяне, калі прызначылі пенсію, быт стаў больш спакойны: на хлеб хапае, чаго хвалявацца? Ёсць майстэрня, кватэра. Толькі працуй! Распачата 50 карцін, а творчых задумак — сотні.***

Нэла Іванаўна ўмее спалучаць эксперымент і традыцыю — як у мастацтве, так і ў жыцці. Яе творчасць цікавіла людзей, у майстэрню зачасцілі госці. Урэшце, яны проста перашкаджалі працаваць. І тады Нэла Іванаўна вырашыла: няхай прыходзяць, але раз на тыдзень, у сераду. "Серады ў Шчаснай" сталі традыцыяй. У майстэрні пры ўваходзе гасцей сустракае незвычайнае крэсла, зробленае з цэльнага кавалка дрэва — з камчацкай каменнай бярозы. Нэла Іванаўна аднойчы ўбачыла гэты выраб на выстаўцы ў Маскве і так захапілася, што ў дадатак да грошай, якіх не хапала, каб выкупіць крэсла, аддала афортны станок.

***— Мае ініцыялы і прозвішча даюць утварэнне — "Н.І.Шчасная", і за мною па жыцці ідзе як "шчасная", так і "нішчасная" доля. Нічога мне давалася лёгка і радасна, кожная добрая задума натыкалася на перашкоды. У гэтым сэнсе я "нішчасная". Але ж я прыкладвала намаганні і перамагала — тады была "шчасная". Цяпер у мяне таксама ёсць вялікая задума: стварыць у Мінску музей аўтапартрэта і партрэтаў беларускіх мастакоў. Гэта быў бы цікавейшы і вельмі патрэбны музей. Аўтапартрэты ёсць, бадай, у кожнага мастака, яны захоўваюцца дома, бо такія работы звычайна не прадаюцца. Мастакі маглі б перадаць іх у арэнду. Асабліва мне хочацца далучыць да гэтай справы мастакоў, якія не маюць званняў, славы, але ж людзі таленавітыя, ціха сабе працуюць, пішуць — і яны сам-насам, на адзіноце. Дзесяцігоддзе я настойліва даводжу гэту ідэю, шукаю памяшканне, і калі мяне зразумеюць, дапамогуць і музей з'явіцца — я адчую сябе шчаслівай!***

Гутарыла Ала КАНАПЕЛЬКА

Пятрусь Макаль

## МАЙСТЭРНЯ

Н. ШЧАСНАЙ

*Я ведаю,*  
*што хараство не згіне,*  
*Пакуль твաё святло прадзе*  
*і тчэ...*  
*І ты мне зноў нагадваеш,*  
*багіня! —*  
*Аб тым,*  
*што свет не створаны яшчэ...*  
*Аб цудадзейным дотыку рукі*  
*Спрадвеку тужыць*  
*россып шчырых фарбаў,*  
*Якія прагнуць стаць*  
*сузор'ем скарбаў, —*  
*Прыходзьце, не марудзьце,*  
*мастакі!*  
*Хто, як не ты,*  
*жыццю вясёлку верне,*  
*Што страчана*  
*ў бяздонні цемнаты?*  
*Я ведаю цяпер, што свет —*  
*майстэрня,*  
*Дзе чарадзейна валадарыш ты...*

## ШАНАВАЦЬ ПАМЯЦЬ

*Сёлета 20 кастрычніка споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Вацлава ЛАСТОЎСКАГА (1883—1938), беларускага гісторыка і публіцыста.*



Ён працаваў у газетах "Наша ніва", "Гоман", у часопісе "Крывіч". Быў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады, партыі беларускіх эсэраў, узначальваў Раду міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, быў акадэмікам і сакратаром Акадэміі навук. Выдаў "Кароткую гісторыю Беларусі" (Вільня, 1910), некалькі іншых прац па беларускай гісторыі. Прапагандаваў тэорыю "залатога веку". Склаў і выдаў "Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" (Коўна, 1924). Быў рэпрэсіраваны і сасланы ў Саратаў. Там працаваў у бібліятэцы. Атрымаў вышэйшую меру пакарання. Пасля яго засталіся не толькі навуковыя работы, але і літаратурныя творы — апавяданні, абразкі, гістарычная аповесць "Лабірынты". Рукапісныя матэрыялы В. Ластоўскага захоўваюцца ў дзяржаўных і прыватных сховішчах.

С.С.

## ЯК ПРЭМ'ЕРА... ПРАЗ 50 ГАДОЎ

*Пяцьдзесят гадоў ідзе на беларускай сцэне геніяльная опера Д. Вердзі "Аіда", і здаецца, працягваецца сцэнічнае жыццё яе пастаноўшчыкаў — дырыжора Льва Любімава, рэжысёра Ларысы Александроўскай, мастака Сяргея Нікалаева. У 1993-м беларускія артысты паказалі "Аіду" на гастролях у Іспаніі, сёлета — у Германіі. А 300-ты спектакль адбыўся 11 кастрычніка.*

Упершыню выступіла ў партыі Аіды салістка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі Ніна Шарубіна. Публіка літаральна асыпала яе працяглымі апладысментамі. Пакарыў цудоўны голас артысткі, абаяльнасць, сцэнічнасць. За параўнальна невялікі час працы ў трупе яна стварыла шэраг цікавых оперных вобразаў — Іланты, Лізы ( у операх П. Чайкоўскага "Іаланта", "Пікавая дама"), Нэдды ("Паяцы" Р. Леанкавала), Амеліі ("Баль-маскарад" Д. Вердзі), Чыа-Чыа-сан ў аднайменнай оперы Д. Пучыні. Рэпертуар яе працягвае папаўняцца.

Добра пасуе партыі Радамеса яркі голас Сяргея Франкоўскага, у рэпертуары якога ўсе вядучыя тэнаровыя партыі спектакляў тэатра. Сёлетнім гастрольным летам яго выступленні ў партыі Радамеса ў "Аідзе" ў Германіі, Аўстрыі, па словах відавочцаў, мелі вялікі поспех. І вось упершыню Сяргей Франкоўскі выступіў на сцэне роднага тэатра ў партыі Радамеса і таксама вельмі ўдала. У партыі Аманасра дэбютаваў Андрэй Марозаў, які зрабіў свой унёсак у агульны поспех.

З імпэтам правялі свае партыі ў гэты вечар Наталля Руднева (Амнерыс) ды Алег Мельнікаў (Рамфіс). Упершыню кіраваў спектаклем "Аіда" галоўны дырыжор тэатра Вячаслаў Чарнуха. Аркестр пад яго кіраўніцтвам імкнуўся адлюстраваць аўтарскай задуме, вось толькі часам заглушаў спевакоў. Добрае ўражанне зрабілі незабыўныя вердзіеўскія хоры.

Вера КРОЗ

# ЖЫЦЦЁ, ЯК ЗНІЧКА...

Усё тут наша, толькі мы яму
не свае.
*З народнага*

Жыццё Браніслава Туронка нагадвае знічку. Праляцела і згасла. Асвяціўшы толькі на момант неба зыркім і прывабным святлом. Святлом беларускай веры, праўды і неўміручасці духу. "Жыццё кароткае — Радзіма вечная", — гаварылі старажытныя рымляне. І ў гэтых словах заключаецца ўся квінтэсенцыя зямнога жыцця людзей, да катэгорыі якіх адносіўся і Браніслаў Туронак. У свой час Аляксандр Уласаў пісаў: "Усе павадыры нашы на беларускай справе кар'еры не зрабілі. Жыццё іх горкае, мучаніцкае і ідуць яны не па кветках, але па калючках". Гэтыя словы па праву адносяцца і да нашага героя. Штрафы, канфіскацыі, пераследы, турмы суправаджалі ўсю ягоную нядоўгую зямную дарогу. Часта судзілі ні за што. Проста так. Каб скарыўся, зламаўся, нарэшце, здаўся. Але не дачакаліся. Навечна застаўся чалавекам, асобай, грамадзянінам, тым і цікавы нам, яго нашчадкам.

Нарадзіўся Браніслаў Туронак 22 чэрвеня 1896 года ў фальварку Пестуны недалёка ад мястэчка Новы Пагост Дзісненскага павета ў сям'і арандатара. Сям'я на той час складалася з трох душ. Бацька, Сцяпан і Канстанцыя, і старэйшы брат Уладыслаў. У 1900 годзе Туронкі перабраліся ў Янопаль, дзе бацька пачаў арандаваць фальварак, які належаў пану Уладыславу Козел-Пакрэўскаму. Гэта было даволі глухое, закінутае, пустэльнае месца. У Янопалі сям'я пабольшала. Акрамя двух сыноў, нарадзіліся яшчэ тры дачкі: Фартуната, Антаніна ды Агнешка. Але і тут па невядомай прычыне Сцяпан Туронак доўга не затрымаўся. У 1908 годзе сям'я пераязджае ў недалёкую Яцкоўшчыну, дзе Туронкам давялося пражыць пяць наступных гадоў. І толькі пасля гэтага сям'я зноў вяртаецца на ранейшае месца арэнды ў дарагі і любімы Янопаль.

Як па тым часе, дык жылі Туронкі даволі заможна. Мелі пяць коней, дванаццаць кароў, ды іншай жывёліны хапала. Сам гаспадар "шыў боты, рабіў бочкі, вёдры ды іншыя хатнія прылады і гаспадарчае абсталяванне". Жылося ў прынцыпе нядрэнна, але даводзілася шмат працаваць, каб утрымаць гаспадарку на належным узроўні. Не засталіся ў баку ад работы і дзеці, а іх на той час на двух хлопчыкаў паболела. У 1909 нарадзіўся Ігнат, а праз сем гадоў Віцька.

Нягледзячы на тое, што ў сям'і ашчаджалася кожная капейчына (ды і пара рабочых рук), тым не менш, Сцяпан Туронак стараўся, каб дзеці атрымалі адпаведную адукацыю і выйшлі ў людзі. Напрыклад, старэйшы сын Уладыслаў скончыў 4 класы народнага вучылішча, а дачка Фартуната — пачатковую школу — і збіралася паступаць у гімназію. Але асаблівую цягу да навукі праяўляў Бронюсь. Па некаторых, часта супярэчлівых, звестках вядома, што скончыў ён шасцікласнае народнае вучылішча ў Новым Пагосце. Затым была вучоба ў Віленскай васьмікласнай прыватнай гімназіі, якая існавала пры Таварыстве распаўсюджвання сярэдняй адукацыі. Плата за навуку была невялікая і складала недзе 150 рублёў у год. Але і такія грошы былі патрэбныя ў гаспадарцы, таму часткова апеку над Бронюсем узяў яго дзядзька — каталіцкі святар Ігнацый Туронак.

Але далейшую ягоную вучобу перарвала першая сусветная вайна. У 1915 годзе фронт наблізіўся да Вільні. Дзякуючы дапамозе дзядзькі Браніслаў Туронак быў уключаны ў групу моладзі, якая выехала спачатку ў Віцебск, а потым у Яраслаўль. Тут, у гэтым старым рускім горадзе, ён скончыў гімназію і атрымаў атэстат сталасці.

Хутчэй за ўсё, менавіта тут, у Расіі, і з'явілася ў душы маладога Браніслава Туронка кроўнае пачуццё прыналежнасці да беларускага народа. Хоць, праўда, для гэтага і раней былі падставы. Дома заўсёды размаўлялі па-беларуску і, не звяртаючы ўвагі на час і каталіцкае веравызнанне, лічылі сябе беларусамі. Але тут, на чужыне, "дзе і паветра чужое, і дыхаецца не так", адарванасць ад дому, ад Радзімы заўсёды выклікае абвостранае пачуццё любові да страчанага. Адбывалася пакутлівае вяртанне да сваёй мовы, культуры, да Беларусі. Уплывалі на такое вяртанне і некаторыя нацыянальныя і культурныя дзеячы, якія апынуліся ў той час у Яраслаўлі. А гэта Радаслаў Астроўскі, драматург Васіль Гарбацэвіч ды іншыя. Там жа вучыўся ў юрыдычным ліцэі і Максім Багдановіч, які неадноойчы наведваў беларускія зборкі, дзе ставіліся спектаклі, чыталіся рэфераты па гісторыі і культуры Беларусі, спяваліся беларускія народныя песні. Ды і час быў спрыяльны. Усе нацыянальнасці тагачаснай Расійскай імперыі, гэтай "турмы народаў", адчуваючы непазбежнасць краху царскай дэспатыі, пачалі актыўна гуртавацца, ствараць свае арганізацыі, таварыствы, суполкі. Не засталіся ў баку і беларусы.

На Радзіму Браніслаў Туронак вярнуўся пасля лютаўскай рэвалюцыі перакананым беларусам і актыўным грамадскім дзеячам. І адразу ўключыўся ў працу. Ужо ранняй восенню 1917 года, згуртаваўшы вакол сябе некалькі мясцовых інтэлігентаў, ён з іх дапамогай арганізаваў 15 пачатковых беларускіх школ, якія праіснавалі да прыходу палякаў у 1919 годзе. Але самога праца вясковага настаўніка не прываблівала. Яшчэ жывучы ў Яраслаўлі, ён паслаў прашэнне і дакументы для паступлення на юрыдычны факультэт Харкаўскага універсітэта. Запрашэнне на вучобу атрымаў у пачатку кастрычніка 1917-га года і адразу выехаў у Харкаў. Але правучыўся там нядоўга, усяго некалькі тыдняў. Пачалася кастрычніцкая рэвалюцыя, а за ёй лютая грамадзянская вайна на Украіне. Вучобу на няпэўны час вымушаны быў адкласці і вярнуцца на Беларусь.

На Дзісненшчыну вярнуўся позняй восенню таго ж года. Настаўнічаў. Спачатку ў беларускай школе ў Більдзюгах, а затым у Новым Пагосце. Навязаў добрыя сяброўскія стасункі з ксяндзом Адамам Станкевічам — лідэрам беларускіх хадэкаў — якія не прыпыніліся да канца жыцця. Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя (БХД), альбо, інакш кажучы, хадэцыя, была найбольш уплывовай тагачаснай незалежніцкай партыяй. Мела моцныя ўплывы і на каталіцкае насельніцтва Дзісненшчыны. У шэрагах партыі знаходзілася значная колькасць каталіцкіх святароў, сярод якіх найбольш аўтарытэтным быў Адам Станкевіч. Гэтае сяброўства і вызначыла ў далейшым палітычныя сімпатыі і грамадзянскія перакананні Браніслава Туронка.

У лютым 1918 года Дзісненшчыну захапілі немцы, затым прыйшлі бальшавікі, а за імі палякі. І кожны стараўся ўсталяваць тут сваю ўладу і застацца навечна. Пры гэтым не лічыліся ні з жаданнямі мясцовага насельніцтва, ні з яго патрабаваннямі. Але, на шчасце, прага да жыцця брала верх. Браніславу Туронку карцела вучыцца далей. Яго цягнула, прывablівала, спакушала старажытная Вільня.

Прыехаўшы ў Вільню, Браніслаў Туронак адразу навязаў кантакты з Адамам Станкевічам. Якраз у гэты час адчыняліся першыя Беларускія настаўніцкія курсы. Слухачы іх атрымлівалі бясплатнае харчаванне, мелі магчымасць паглыбіць свае веды ў галіне беларусазнаўства ды і завязаць асабістыя кантакты з аднадумцамі. Улічваючы той факт, што Браніслаў Туронак сам калісьці настаўнічаў, то паступіць яму на тыя курсы не складала цяжкасцяў. Кіраўніком тых курсаў быў Янка Станкевіч, стрыечны брат ксяндза Адама, а выкладчыкамі Максім Гарэцкі, Вацлаў Ластоўскі, Клаўдзіюш Душ-Душэўскі, Міхал Кахановіч ды іншыя. Разам з Браніславам Туронкам на гэтых курсах займаліся некаторыя дзеячы, якія пакінулі адметны след у новай гісторыі Беларусі. Напрыклад, Уладыслаў Казлоўскі, Янка Бялькевіч, Вера Матэйчук. У свой час беларускі гісторык з Польшчы Юрка Туронак пісаў: "Гэты настаўніцкі курс быў не толькі месцам павышэння педагагічных кваліфікацыяў настаўнікаў, але і своеасаблівай школай грамадскіх дзеячаў, а нават партыйнай "біржай". Найбольшую актыўнасць праяўлялі тут эсэры, дзейнічалі народнікі, хадэкі". Што датычыць Браніслава Туронка, то ён пэўнай сімпатыі да той ці іншай партыі не меў, лічачы, мусіць, агульнанацыянальную працу важней за вузкапартыйную, аднабокую. Ды і па характары быў не падобны да партыйнага дзеяча. Заўсёды вясёлы, камунікабельны. Любіў пажартаваць, пасмяяцца. Стараўся не прапускаць "ніводнай танцавальнай вечарынкі", апранаўся проста, але з густам. Быў крыху вышэй за сярэдні рост, статны, прыгожы. Сапраўдны беларускі засцянковы шляхціц у лепшым сэнсе гэтага слова.

А ў гэты час у Вільні адбывалася не абы-якая падзея. Дэкрэтам Язэпа Пілсудскага ад 28 жніўня 1919 года ў Вільні быў адчынены універсітэт, названы ў гонар Стэфана Баторыя, караля польскага і Вялікага князя Літоўскага. Урачыстае адкрыццё адбылося 11 кастрычніка таго ж года. Студэнтамі сталі 547 чалавек, з іх 351 былі прынятыя стала, а 196 — вольнымі слухачамі, бо не мелі закончанай сярэдняй адукацыі. Рэктарам стаў Міхал Сядлецкі. Але нармальнай працы перашкодзілі польска-савецкія баявыя дзеянні летам 20-га года. Вучоба была здэмаралізавана. Кіраўніцтва універсітэта выехала спачатку ў Варшаву, а затым у Познань. У Вільню ўвайшла Чырвоная Армія. Але ненадоўга. Пацярпеўшы сакрушальную паразу пад Варшавай ужо ранняй восенню 1920 года, бальшавікі вымушаныя былі пакінуць нашу старадаўнюю сталіцу, а 9 кастрычніка таго ж года Вільню занялі польскія (літоўска-беларускія) палкі генерала Люцыяна Жэлігоўскага. Пачалася амаль 20-гадовая польская акупацыя Заходняй Беларусі.



У студзені 1921 года была аднаўлена праца Віленскага універсітэта. Ягоным студэнтам стаў і Браніслаў Туронак. Па ўспамінах жонкі вядома, што атрымаў ён студэнцкае пасведчанне пад нумарам 6, а гэта значыць, што быў Браніслаў "адным з першых студэнтаў аднаўленага універсітэта". Ужо тады сярод студэнтаў была даволі ладная беларуская група, якая ў снежні 1921 года аформілася ў Беларускі студэнцкі саюз (БСС). Яго арганізатарамі былі Браніслаў Туронак, Антон Абрамовіч, Францішак Пяткевіч, Тодар Куніцкі і Мікалай Марцінчык. Усе яны былі студэнтамі медыцынскага факультэта. Старшынёй быў абраны Антон Абрамовіч. Сваю галоўную задачу БСС бачыў у абуджэнні нацыянальнай свядомасці сярод беларускага студэнцтва, яго кансалідацыі і грамадскай актыўнасці. Пры Студэнцкім саюзе пачалі працаваць культурна-асветная, навуковая і выдавецкая секцыі і бібліятэка. А ў

сакавіку 1922 года быў заснаваны часопіс "Наш Шлях", як перыядычны орган БСС. Рэдактарам і выдаўцом стаў Браніслаў Туронак. На старонках "Нашага Шляху" друкаваліся Наталля Арсеннева, Зоська Верас, Мікола Марцінчык ды іншыя. Пад псеўданімам С. Радзіміч выступаў сам рэдактар. Толькі, на жаль, праіснаваў часопіс да 1923 года. Ды і выйшла яго ўсяго тры нумары. Але след у гісторыі беларускага перыядычнага друку пакінуў істотны і варты пашаны. Недзе ў сярэдзіне лістапада 1923 года адбыўся агульны сход студэнтаў-беларусаў Віленскага універсітэта, які выбраў новае кіраўніцтва Беларускага студэнцкага саюза. Яго ным старшынёй стаў І. Лабанец, а сябрамі ўправы А. Знюк, Т. Куніцкі і М. Марцінчык. Пасаду скарбніка заняў Браніслаў Туронак. У той час арганізацыя знаходзілася ў памяшканні Цэнтральнай беларускай школьнай рады, якая размяшчалася на Віленскай вуліцы.

А жыць у Вільні Браніславу Туронку было цяжка. З матэрыяльнага пункту гледжання. Яшчэ перад паступленнем ва універсітэт ён выказаў жаданне атрымліваць стыпендыю і месца ў інтэрнаце. Але жыць давялося на прыватных кватэрах. За жыллё плаціў "часткова грашыма, а часткова сушонымі баравікамі", якія падвозілі з дому родныя. Прыйшлося і галадаць. Час быў цяжкі, а з прадуктамі ў Вільні было не вельмі добра. Нягледзячы на розныя цяжкасці, ад грамадскай працы не ўхіляўся, за што карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод беларускага студэнцтва. Быў яго неафіцыйным лідэрам. У свой час адзін з сяброў Браніслава Туронка пісаў: "Гэта быў чалавек дадатны ў кожным сэнсе, свядомы беларус, апалітычны, спакойны, беззаганны сябра, культурны, працавіты. Ён добра вучыўся і, лічы, кожны дзень быў у памяшканні БСС. Адным словам, калі б усе людзі былі як Браніслаў Туронак, то быў бы рай на зямлі". Паважала яго і старэйшае грамадзянства. Хоць у той час ён не з'яўляўся сябрам якой-небудзь беларускай палітычнай партыі, але незалежнікам быў прынцыповым. Сваё жыццёвае і палітычнае крэда выказаў у артыкуле, які быў змешчаны ў 1923 годзе ў "Нашым Шляху": "Наша арыентацыя — гэта не арыентацыя на Польшчу, Расею, Літву ці кагось іншага, а на беларускі народ". У лістападзе 23-га абраны сакратаром Беларускага таварыства помачы ахвярам вайны, дзе старшынстваваў ксёндз Адам Станкевіч. З'явіліся і новыя абавязкі. У канцы снежня таго ж года Браніслаў Туронак быў абраны рэдактарам вельмі папулярнай у тыя гады беларускай газеты "Крыніца". Гэтае выданне прызначалася, у першую чаргу, для беларусаў-каталікоў і было перыядычным органам БХД. Друкавалася газета паралельна лацінічным і кірылічным шрыфтам, а фінансавую дапамогу атрымлівала ад беларускіх каталіцкіх святароў і эміграцыйнага ўрада В. Ластоўскага з Коўна. Хоць рэдактарства Б. Туронка працягвалася нядоўга, недзе каля двух гадоў, але папсаваных нерваў і розных турбот для яго хапіла. Дастаткова згадаць толькі некаторыя факты. Так, з дваццаці нумароў, выпушчаных пад яго рэдактарствам, дзевяць было сканфіскавана польскай палітычнай паліцыяй. Акрамя таго, у 1924 годзе ён быў прыцягнуты да судовай адказнасці і "ўзнагароджаны" значным грашовым штрафам. Але найбольшую непрыемнасць давялося яму перажыць пасля публікацыі ў газеце артыкула "Праўда аб Жодзішках". У ім, схаваўшыся пад псеўданімам "Тамашні", Туронак апісаў страшэнныя ганенні, якія перажываў мясцовы ксёндз, вялікі беларускі патрыёт, айцец Вінцэнт Гадлеўскі з боку польскіх акупацыйных уладаў. І зразумелая рэч, што палякам гэта не спадабалася. У адну з майскіх начэй 25-га года Браніслаў Туронак быў арыштаваны, а нумар газеты з публікацыяй канфіскаваны дэфензівай. Давялося спазнаць і ўсю "справядлівасць" тагачаснага польскага правасуддзя. За праўду, сказаную ў артыкуле, Б. Туронак атрымаў два месяцы турэмнага зняволення і забарону ў будучым займаць пасаду рэдактара. Вось такая яна была, свабода па-польску!

За штодзённымі лекцыямі, актыўнай патрыятычнай дзейнасцю Браніслаў Туронак не заўважыў, як імкліва праляцеў час. І вось ужо 1924 год. Год развітання з універсітэтам, сябрамі і выкладчыкамі, якіх паспеў палюбіць. Двухгадовую практыку адбываў на Віленшчыне, а 3 ліпеня 1926 года атрымаў дыплом доктара лекарскіх навук. Працу доктара арганічна спалучаў з палітычнай і грамадскай дзейнасцю. А час быў цікавы. Набірала сілу Грамада. Створаная "пад непасрэдным кіраўніцтвам КПЗБ", яна штораз больш звязвала сваю дзейнасць з савецкім Мінскам, ставячы перад сабой канчатковай мэтай далучэнне Заходняй Беларусі да БССР, што не падабалася беларускім незалежнікам. І калі ўзнікла ідэя стварэння незалежніцкай парламенцкай партыі ў супрацьвагу Грамадзе, то Туронак быў сярод яе заснавальнікаў. Такая партыя была створана і называлася Беларускі Сялянскі Саюз (БСС). 24 сакавіка 1926 года ў Вільні адбыўся І з'езд Сялянскага Саюза. Быў абраны яе Цэнтральны Камітэт у складзе: В. Рагуля (старшыня), Т. Куніцкі і Ф. Ярэміч (намеснікі), А. Більдзюкевіч (сакратар) і Б. Туронак (нам. сакратара). А крыху пазней, як прадстаўнік БСС, Туронак быў уведзены ў Беларускі Нацыянальны Камітэт, які з'яўляўся своеасаблівым каардынуючым цэнтрам усіх незалежніцкіх сілаў Беларусі. І ўвогуле тагачаснай актыўнасці Браніслава Туронка можна пазайздросціць. Паглядзіце самі.

Калі ў выніку супрацоўніцтва БСС з БХД узнік Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (БІГіК), то Браніслаў Туронак абіраецца старшынёй управы яго Віленскага аддзела. Пазней узначальвае Гандлёва-прамысловы банк, створаны БІГіКам. А ў 1928 годзе ён быў вылучаны кандыдатам ад Блока нацыянальных меншасцяў Польшчы ў Сейм. Толькі, на жаль, не перамог, а заняў другое месца. А яшчэ былі чытанні папулярных лекцыяў на гістарычныя, асветныя і медыцынскія тэмы. Ды і пісаў нямала. Напрыклад, у "Беларускім календары" за 1928 год можна прачытаць яго артыкулы "Аб сухотах" і "Дагляд над малым дзіцем". А ў 1928 годзе ў выдавецтве "Беларуская крыніца" выйшла яго кніга "Гігіена ўзгадавання дзіцяці". Была яна невялічкага фармату, налічвала 40 старонак друку ды набраная лацінічным шрыфтам. Але быў гэта, на жаль, апошні перыяд яго бурнай грамадскай дзейнасці.

Крыху раней, недзе ў 1926 годзе, на адным з беларускіх набажэнстваў, якія праходзілі ў касцёле Святога Мікалая, Браніслаў Туронак пазнаёміўся з прыгожай, вельмі інтэлігентнай дзяўчынай Марыяй Рэшаць. Была яна роднай сястрой вядомага грамадскага дзеяча, знанага беларускага каталіцкага святара Язэпа Рэшаця. Праз нейкі час знаёмства перарасло ў каханне, а 31 студзеня 1928 года ў касцёле Святога Якуба адбыўся іх шлюб. І як ні дзіўна, але ён унёс істотныя змены ў далейшае жыццё Б. Туронка. Вясной таго ж года па невядомай цяпер прычыне ён пакідае Вільню і пераязджае ў глухое "жыдоўска-польска-літоўскае мястэчка" Дукшты. Што сталася тут прычынай? Чаму ён, такі актыўны чалавек, пакідае Вільню, гэты цэнтр беларускага жыцця, і выязджае ў своеасаблівую добраахвотную высылку? Не ведаю. Ды, напэўна, і ніхто ўжо не ведае і не даведаецца. У далейшым жыў Браніслаў Туронак звычайным жыццём мястэчковага лекара. Гадаваў дзяцей. А іх было ў яго трое. Дарэчы, усе сыны. Стараўся выхаваць іх патрыётамі. У хаце заўсёды размаўлялі на роднае мове, шанавалі родную кнігу, часопіс, газету, часта спявалі народныя песні. Пры магчымасці, дапамагаў беларускім арганізацыям фінансава. Так, неаднойчы, яго прозвішча значылася сярод ахвярадаўцаў на часопіс "Шлях моладзі". Істотную суму грошай унёс ён і на будаўніцтва надмагільнага помніка беларускаму пісьменніку Ядвігіну Ш. Былі і іншыя добрыя справы. Не забываліся пра яго і сябры. Іншым разам наведваліся Язэп Малецкі, Пётра Сергіевіч, Міхась Машара ды іншыя. Хто ведае, як склалася б жыццё Браніслава Туронка ў далейшым. Ды яшчэ напярэдадні Другой сусветнай вайны. Напэўна б, не найлепшым чынам. Але лёс распарадзіўся па-свойму. У час адной паездкі да хворага ён моцна прастудзіўся, а 19 верасня 1938 года яго не стала...

Жыццё Браніслава Туронка нагадвае знічку. Праляцела і згасла. Пакінула на зямлі толькі невялікі след ягонай прысутнасці. Тым не менш, след яго істотны і важкі, зыркі і вартасны. След чалавека, душа якога пакутавала за родны край, але, на вялікі жаль, была да канца не запатрабаваная ні гэтым народам, ні краем. І да таго нясцерпна балела і вярэдзілася.

**Міхась КАЗЛОЎСКІ**

**ВЫСТАВЫ**

# МАЙСТАР-КЛАС ДОРЫЦЬ ПРЫГАЖОСЦЬ



Не кожны здольны ствараць прыгажосць. Што й казаць — калі нават адрозніваць сапраўдную прыгажосць ад моднай падробкі мы ўсё больш развучваемся.

Ну а навучыць ствараць прыгажосць — гэтае ўменне яшчэ больш рэдкае.

Напрыканцы верасня ў сталічным навучальным комплексе гімназія-каледж мастацтваў адбылася незвычайная імпрэза.

Яўген Саковіч — заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь, чалавек, вядомы ў мастацкіх колах. Да 30-гадовага юбілею яго творчай і педагагічнай дзейнасці і да яго 55-годдзя было прымеркавана адкрыццё выставы, на якой можна пабачыць цудоўныя акварэлі самога Яўгена Саковіча і працы яго сённяшніх вучняў, трэцякласнікаў. Майстар-клас Яўгена Саковіча, аўтара праграм навучання, па якіх сёння займаюцца 65 школ з мастацкім ухілам, — дзесяць таленавітых дзяцей, дзесяць індывідуальнасцяў.

У адкрыцці імпрэзы ўзяў удзел Патрыяршы экзарх усяе Беларусі, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, які неаднойчы наведваў гімназію-каледж і знаёміўся з працамі навучэнцаў. Уладыка падзякаваў Яўгену Саковічу за яго самаадданую працу, уручыў грамату, а юныя ўдзельнікі выставы атрымалі з рук Уладыкі маляўнічы буклет, які так і называецца — "Ствараем прыгажосць разам" і ў якім прадстаўленыя творы Яўгена Саковіча і яго вучняў. Свайго калегу, Яўгена Саковіча, павіншавалі народныя мастакі Беларусі Гаўрыіл Ващанка і Май Данцыг, а таксама прарэктар Беларускай акадэміі мастацтваў М. Баразна. Віншаванні прагучалі і ад прадстаўнікоў беларускага парламента, ад раённага аддзела адукацыі, ад калектыву педагогаў гімназіі-каледжа і ад калектыву бацькоў. І, зразумела, ад вучняў — а іх у Яўгена Саковіча за 30 гадоў было вельмі шмат.

**Л. ШНІП**

**ІМПРЭЗЫ**

## «ЧЫСТАЕ НЕБА» ПЕСЕНЬ

На тым тыдні наш заслужаны калектыў, Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам прафесара Міхала Фінберга даў тры дабрачынныя канцэрты ў Цэнтральным доме афіцэраў. Праграма называлася "Чыстае неба", складалася больш чым з трох дзесяткаў песень — як новых, так і створаных у мінулыя гады, папулярных у розны час. Аркестр выступаў перад вайскоўцамі. А прысвяціў ён сваю акцыю 60-годдзю вызвалення Беларусі ад гітлераўскай акупацыі.

**Н. К.**

***НА ЗДЫМКУ: народны артыст Беларусі маэстра М. ФІНБЕРГ.***

***ФОТА В. СТРАЛКОЎСКАГА***

**ФАКТ**

# БЕЗ МУЛЯВІНА...

Стварэнне Нацыянальнага цэнтра музычнага мастацтва імя Уладзіміра Мулявіна амаль завершана. Плануецца, што ў новую гэтую структуру ўвойдуць усе калектывы Белканцэрта, што пры цэнтры будзе створана мастацкая рада і яго першая "зборная" праграма далучыцца да мастацкіх праектаў, прысвечаных 60-годдзю вызвалення Беларусі ад гітлераўскай акупацыі.

Рыхтуецца дэбютаваць і новы склад ансамбля "Песняры". Пакуль вядома, што яго першае публічнае выступленне мае адбыцца 29 кастрычніка, у канцэрце, прысвечаным 85-годдзю камсамола. А з чым выйдуць на сцэну "немулявінскія" спевакі ды музыкі? Хутка даведаемся...

**Н. К.**



**На Беларусі праццягваецца "Восень з польскай культурай". Амаль усе імпрэзы ды акцыі, якія ладкуюцца пры чынным удзеле Польскага інстытута ў Мінску, адбываюцца ў бягучым квартале пад знакам гэтага фэсту.**

# "ВОСЕНЬ" — ДА СНЕЖНЯ

"Па слядах спадчыны Сапегаў" — цыкл гістарычных семінараў, запланаваны на кастрычнік-лістапад у Брэсце, Слоніме ды Гародні, рыхтуюць "IP" ды Беларускі фонд імя Л. Сапегі. На базе Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П. Машэрава арганізавана IV Міжнародная канферэнцыя "Ян Баршчэўскі і славянскі свет". Тамсама рыхтуецца выданне кнігі "Польска-беларускія моўныя сувязі".

Кожную сераду, а 19-й гадзіне ў малой зале вучэбнага тэатра Беларускай акадэміі мастацтваў адбываюцца кінапаказы польскага відэаклуба. А 4—5 лістапада тамсама пройдуць вечары польскага дакументальнага фільма. Сталіцы пашанцавала на дзве цікавыя выстаўкі. З 28 кастрычніка па 11 лістапада ў Палацы мастацтваў будзе экспанавацца польскі жывапіс XVIII—XIX стст. са збораў Нацыянальнага музея ў Варшаве. Экспазіцыя — тэматычная: "Коні і коннікі". А 6 лістапада Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі запросіць на археалагічную выстаўку са збораў Музея археалогіі ў Познані. Яе назва інтрыгуе: "Газаправод поўны археалагічных скарбаў". Экспазіцыя разгорнецца да 17 снежня.

Тэатралаў зацікавіць паведамленне пра тое, што ў Любліне, у выдавецтве універсітэта імя М. Складоўскай-Кюры выходзіць зборнік сучасных беларускіх п'ес — твораў С. Кавалёва "Стомлены д'ябал" (лістапад). А ў Віцебску, у Акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа, 25 кастрычніка можна будзе падзівіцца на спектаклі рэжысёра Л. Мондзіка "Гербарый" і "Вільготнасць" ("Пластычная сцэна" Любінскага каталіцкага універсітэта). На лістапад замоўлена прэм'ера спектакля "Кравец" паводле С. Мрожака ў Брэсцкім абласным тэатры драмы і музыкі.

Дарэчы, пра музыку. Багатая на яе аказалася сталічная кастрычніцкая афіша: канцэрт з твораў Ф. Шапэна ў выкананні маладых беларускіх піяністаў; сённяшні, 17 кастрычніка, "Канцэрт немагчымых фігур" з удзелам польскіх джазменаў; праграма прадстаўнікоў Вроцлаўскай акадэміі музыкі.

Мінчукі, знаёмыя з творчасцю польскага спевака і акцёра А. Аходлы, змогуць патрапіць на прэм'еру яго новага праекта "Песні Гета" (сумесная праца тэатра "Atelier" з Сопата і Мінск-Клезмер-Бэнда). Імпрэза мае адбыцца 10—17 лістапада.

А ў Віцебску, падчас XV Міжнароднага фестывалю камернай музыкі імя І. Салярцінскага (30 лістапада — 15 снежня), добра знаёмы ў нас Е. Станкевіч, старшыня Саюза польскіх кампазітараў (Кракаў), выступіць з цыклам лекцый.

І гэта яшчэ не ўсё, што плануецца і нядаўна ўжо здзейснена ў сферы польска-беларускіх культурных стасункаў на кастрычнік—снежань.

**С. ВЕТКА**

## КІНАФАРМАТ 4x4

7 лістапада ў Мінску, праз два дні пасля сусветнай прэм'еры, распачнецца паказ трэцяй часткі легендарнага фільма братоў Вачоўскі "Матрыца. Рэвалюцыя". А пакуль, у апошнія дні кастрычніка, "Кінавідэапракат" парадуе мінскіх гледачоў цікавымі арт-хаўснымі фільмамі ў чарговай падборцы "Кінафармату 4x4".

**24 кастрычніка**
"Бальзак і краўчыха-кітаяначка" (кінатэатр "Бярэсце")
"Басейн" (кінатэатр "Аўрора")
"Ной — белая варона" (кінатэатр "Мір")
"Шануй бацьку свайго" (кінатэатр "Перамога")

**25 кастрычніка**
"Шануй бацьку свайго" (кінатэатр "Бярэсце")
"Ной — белая варона" (кінатэатр "Аўрора")
"Бальзак і краўчыха-кітаяначка" (кінатэатр "Мір")
"Басейн" (кінатэатр "Перамога")

**26 кастрычніка**
"Ной — белая варона" (кінатэатр "Бярэсце")
"Шануй бацьку свайго" (кінатэатр "Аўрора")
"Басейн" (кінатэатр "Мір")
"Бальзак і краўчыха-кітаяначка" (кінатэатр "Перамога")



## АНОНС





# У ТЮГу... "КОШКІ"!

Пры канцы мая дзіцячы музычны тэатр "Казка" пад кіраўніцтвам Глеба Аляксандрава здзівіў сваю (і ці толькі сваю!) публіку першым на Беларусі паказам славутага мюзікла Э. Л. Уэбера "Кошкі". Праўда, прэм'ера прайшла без адпаведнага такой нагодзе розгаласу. Пэўна, таму, што адбылася яна, можна сказаць, наўзбоч умоўнага сталічнага "тэатральнага праспекта" — у палацы "Золак", асяродку пазашкольнай работы Заводскага раёна, ці папросту — "на аўтазаводзе".

Цяпер жа "Кошкі" выпраўляюцца на своеасаблівыя гастролі: 27 кастрычніка а 19-й гадзіне спектакль будзе паказаны ў ТЮГу. Музычны кіраўнік, пастаноўшчык і дырыжор спектакля Г. Аляксандраў, галоўныя выканаўцы — юныя артысты тэатра "Казка" стварылі зусім адметную версію брадвейскай класікі XX стагоддзя, якая зацікавіць і дзятву, і спанатраных тэатралаў.

**С. Б.**

## ЦЫТАТА АФІШЫ



**Міністр культуры РБ Леанід ГУЛЯКА: "Дзяржава заўсёды, я ўпэўнены, будзе датаваць культуру, дапамагаць нашым прафесійным калектывам, канцэртным арганізацыям, кінастудыі "Беларусьфільм". Культура не можа жыць толькі за кошт сваіх заробкаў".**
**"7 дней", 11 кастрычніка 2003 г.**

## ВЫСТАВЫ

**Сёння ў памяшканні Музея гісторыі кіно (вул. Свярдлова, 4, тэл. 227-10-75) праходзіць выстава "Паэтычны аргумент", на якой прадстаўлены касцюмы і рэквізіт з найноўшага беларускага фільма "Анастасія Слуцкая". Нагадаем, што мастакамі па касцюмах у стужцы выступілі Алена Ігруша і Жанна Капуснікава.**



## АФІША КАСТРЫЧНІКА

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета РБ**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

24 — П. Чайкоўскі "Лебядзінае возера"
26 — К. Орф "Карміна-Бурана", Ж. Бізэ— Р. Шчадрын "Кармэн-сюіта"
29 — Ц. Пуні "Эсмеральда"
31 — А. Адан "Карсар"
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41**

25 — Д. Пучыні "Чыо-Чыо-сан"
26 (раніца) — А. Будзько "Пітэр Пэн"
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08**

25 — Э. Сагалаў "Палёты з анёлам", спектакль пра М. Шагала
26 (а 12-й гадзіне) — — Ж. Перо, Я. Шварц, Т. Габэ "Крыштальны пантофлік"
29 — А. Карэлін "І рэха адказала — ты" (прэм'ера)
30 — М. Рудкоўскі "Жанчыны Бергмана"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**Беларускі Дзяржаўны маладзёжны тэатр**
**вул. Даумана, 1, тэл. 289-32-62**

25 (а 12-й гадзіне) — "Брыдкае качаня"
25 — У. Шэкспір "Жарсці ў Віндзоры", камедыя
26 — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне"
28 — М. Куліш "Казанне пра Гуску..." (прэм'ера).
29 — Б. Шоу "Пігмаліён"
30 — Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, альбо Жаніцьба Фігара"
31 — І. Б. Зінгер "Тойбеле і яе дэман"
Пачатак вячэрніх спектакляў а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
**вул. Валадарскага, 5, тэл. 220-15-41, 220-39-66**

24 — У. Шэкспір "Трагічная аповесць пра Гамлета..."
25 — Д. Марота, Б. Рандоне "Суцяшальнік удоў" (прэм'ера)
26 — А. Дудараў "Люці", меладраматычны дэтэктыў
28 — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца"
29 — М. Горкі (нью) "Дзівакі", праўдзівая гісторыя
30 — Д. Фо, Ф. Рамэ "Свабодны шлюб"

**Малая сцэна**

26 — Я. Купала "Сон на кургане" (18.30)
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Я. Купалы**
**вул. Энгельса, 7, тэл. 227-17-17**

25, 26 — У. Бутрамееў "Страсці па Аўдзею"
29 — Я. Стэльмах "Каханне ў стылі барока"
30 — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж"

**Малая сцэна**

30 — Пэ дэ Хуан "Дом, дзе спяць прыгажуні"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава, 13, тэл. 223-08-11**

24 — "Фантазіі паводле Гогаля", сатыра

## У СТАЛІЦЫ

**ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ**
**пр. Ф. Скарыны, 44а**



**28 — Вечар вакальнай і фартэпіяннай музыкі.** Вольга Сотнікава (мецца-сапрана) і Таццяна Старчанка (фартэпіяна) выконваюць творы Баха, Моцарта, Расіні, Рымскага-Корсакава, Шумана, Шуберта, Шастаковіча, Шчадрына.

**30 — Ансамбль салістаў "Класік-Авангард".** Мастацкі кіраўнік У. Байдаў. Дырыжор Д. Зубаў (Санкт-Пецярбург). У праграме — Рэйха, Р. Вагнер, Кірхнер, Хіндэміт, Карэлі.

**31 — Вакальная і арганная музыка.** Выканаўцы — Наталля Бярэзіна (сапрана), Канстанцін Шараў (арган, клавесін). Творы Баха, Гендэля, Куперэна, Шумана, Шуберта, Грыга.

25, 26 — А. Астроўскі "Таленты і прыхільнікі" драматычная камедыя
28, 29 — Д. Кілці "Мілы хлус", трагікамедыя
30, 31 — Э. дэ Філіпэ "Філумена Мартурана"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне

**Тэатр юнага гледача**
**вул. Энгельса, 26, тэл. 226-12-43**

24 (а 14-й гадзіне) — "Кот у ботах"
25 (а 11-й, 14-й гадзіне) — "Сястра мая Русалачка"
26 (а 11-й, 14-1 гадзіне) — "Дарога на Віфлеем"
Эксперыментальная сцэна
24 — "Апошняя дуэль"
25 — "Шляхі цароў"

**Муніцыпальны тэатр "Дзе-Я?"**
**вул. Л. Чайкінай, 16, тэл. 243-40-42**

24 — Э. Растан "Рамантыкі"
25 (а 12-й гадзіне) — "Новыя прыгоды старых знаёмых"




Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**
**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-84-61**

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1607
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 15.10.2003 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая установа "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3914

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12